№ 47 (740) 21 снежня 2011

www.nn.by

НЕЗАЛЕЖНАЯ ГАЗЕТА

# Наша Ніва

ПЕРШАЯ БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЕТА

Заснаваная ў лістападзе 1906. Адноўленая ў маі 1991. Выдавец: Прыватнае прадпрыемства «Суродзіч ... тотыднёва, у серады



## Кіма заменіць Кім. 27-гадовы

Памёр паўночнакарэйскі дыктатар Кім Чэн Ір. Краінай будзе кіраваць яго сын Кім Чэн Ын. Старонка 8.

# Паказалі красу КДБ

Актывісткі Femen правялі **эпатажную акцыю** ля беларускага КДБ, пасля чаго апынуліся ў лесе ў Ельскім раёне. **Старонка 3.**




PHOTO BYMEDIA.NET

**Тэндэнцыі**

## «У Кітаі ў школе вучацца да 22:00»

Віцэ-прэм'ер **Анатоль Тозік** лічыць, што школьнікаў трэба мацней загрузіць.

«Ці не занадта шмат мы гаворым аб перагрузцы дзяцей? — задаў пытанне Тозік. — Баюся, што мы абсалютызуем гэтую тэму і праз нейкі час можам выпусціць у жыццё неканкурэнтаздольнае пакаленне...

Жыццё цяпер вельмі жорсткае, калі не сказаць больш. І каб адбыцца ў гэтым жыцці, чалавеку неабходны вельмі сур'ёзны патэнцыял».

Анатоль Тозік падзяліўся досведам арганізацыі навучання дзяцей у Кітаі, з якім ён азнаёміўся, знаходзячыся ў гэтай краіне ў рангу пасла Беларусі.

«Заняткі пачынаюцца а 8-й раніцы і доўжацца да 16-й у малодшых школьнікаў, да 22-й гадзіны — у старшакласнікаў. У выхадныя дні не ўбачыш, каб школьнікі бязмэтна цягаліся па вуліцах — яны наведваюць дадатковыя заняткі.

Мы кажам, што не трэба траўмаваць псіхіку дзяцей, выстаўляючы ім у пачатковай школе адзнакі. А ў Кітаі складаюць ледзь не штодзённа рэйтынг поспехаў школьнікаў, і кожнае дзіця імкнецца прапрацаваць максімальны патэнцыял, з якім яно пойдзе ў жыццё».

«Нам усім неабходна падумаць над тым, як рэальна загрузіць дзяцей, — лічыць Тозік. — Дзіця трэба прывучаць да працы — фізічнай, інтэлектуальнай, маральнай».

**Працяг на старонцы 6.**

**Навука і тэхніка**

### Топ-5 вынаходніцтваў беларускіх навукоўцаў

Што прыдумалі за Год прадпрымальнасці? **Старонка 5.**



**Палеміка**

### Залатая мумія

Ці дазволена крытыкаваць геніяў? Піша Сяргей Дубавец. **Старонка 9.**



**Крымінал**

### У Будславе зарэзалі 25-гадовую дзяўчыну

Яна працавала ў мястэчку па размеркаванні. **Старонка 10.**



**Літаратура**

### Уладзімір Някляеў. Турма

Паэма, напісаная ў «амерыканцы». **Старонка 13.**



# Ці добра жывуць вайскоўцы і міліцыянеры?

Беларускія афіцэры **зарабляюць у 3-5 разоў менш** за калег у суседніх краінах.


PHOTO.BYMEDIA.NET

У Беларусі часта можна пачуць нараканні: маўляў, «толькі вайскоўцы і міліцыя ў нас жывуць». Ці гэта так? Мы вырашылі параўнаць, колькі зарабляюць беларускія афіцэры і іх калегі з суседніх краінаў.

Сярэднямесячны заробак спецыяліста Дэпартамента паліцыі Літвы (гэта ніжэйшая паліцэйская пасада) складае 2522 літы, паведамілі нам у пасольстве Літвы. Галоўны спецыяліст атрымлівае 3592 літы, начальнік аддзела — 4570. Генеральны камісар Дэпартамента (найвышэйшая паліцэйская пасада) зарабляе 6976 літаў.

Сярэдні заробак лейтэнанта Літоўскай арміі складае 2500-3000 літаў. Даляр, нагадаем, сёння каштуе 2,6 літа.

Як паведамілі ў амбасадзе Польшчы, іх афіцэры паліцыі зарабляюць 3500-3800 злотых. Сярэдні заробак афіцэраў у Войску Польскім вышэйшы — ад 4500 злотых. Курс злотага да даляра складае 3,4.

Ад 1 студзеня ў Расіі заробкі ў паліцыі значна вырастуць. Лейтэнант першага года службы будзе зарабляць 33 тысячы расійскіх рублёў (гэта каля 1030 даляраў, бо за даляр цяпер даюць 32 рублі). Пры гэтым у Маскве, напрыклад, заробак яшчэ вышэйшы дзякуючы мясцовым даплатам з бюджэту горада. А сярэдні заробак лейтэнанта войска дасягне аж 50 тысяч расійскіх рублёў, г.зн. каля 1550 даляраў.

| Краіна | Заробак лейтэнанта міліцыі (паліцыі), $ | Заробак лейтэнанта войска, $ |
|---|---|---|
| Беларусь | 295 | 295 |
| Літва | 970 | 1000 |
| Польшча | 1030 | 1320 |
| Расія* | 1550 | 1030 |

* Звесткі па Расіі — павышаны заробак ад будучага, 2012 года.

Аналагічны рост заробкаў і пенсій ажыццяўляецца ва ўсіх сілавых структурах і для суддзяў. Крэмль ганарыцца гэтым дасягненнем. Напэўна, яно мае трохі перадвыбарчы характар.

Пры гэтым у рамках рэформы спыняюцца некаторыя выплаты. Напрыклад, форму афіцэры цяпер будуць купляць самі. Пры такіх заробках яны могуць тое сабе дазволіць.

А вось начальнік аддзела па супрацоўніцтве з друкаванымі СМІ МУС Беларусі Віктар Новікаў параіў даслаць пісьмовы запыт, каб атрымаць адказ на гэты запыт аб заробках беларускай міліцыі на працягу месяца.

Прэс-афіцэр ГУУС Мінгарвыканкама Аляксандру Ластоўскі прызнаўся «НН», што зарабляе 2,5 мільёна рублёў. Але гэта з улікам 10-гадовай выслугі, наяўнасці маёрскага звання і знаходжання на кіруючай пасадзе. Афіцэр, які толькі пачынае працаваць, мае 1,2-1,3 мільёны рублёў у месяц, сказаў Ластоўскі.

Мы даведаліся ў знаёмых лейтэнантаў: іх заробак складае максімум каля 2,5 мільёна.

Столькі сама атрымаў за лістапад камандзір узвода, лейтэнант, у беларускім войску.

Для параўнання перавядзем заробкі ў доляравы эквівалент.

Атрымліваецца, беларускі афіцэр зарабляе ў 3-5 разоў менш за калегаў з суседніх Літвы, Польшчы і Расіі. Нават калі ўлічыць, што падаходны падатак у Беларусі ніжэйшы, а цэны ў краінах-суседках трохі вышэйшыя, усё ж розніца істотная.

**Аксана Рудовіч**

**Даслоўна**

## Ярмошына пра моладзь: «Яны паскудныя мацi, дрэнныя жонкі, нядобрыя, неміласэрныя людзі»

«Я **страшэнна расчараваная** жаночай часткай маладога пакалення».

Пра гэта старшыня ЦВК Лідзія Ярмошына заявіла, адказваючы на пытанне карэспандэнта: «Ваша фраза пра тое, што «дзяўчаты мусяць дома варыць боршч, а не па плошчах шастаць», якую вы сказалі 19 снежня, стала хітом інтэрнэта. Не шкадуеце аб ёй?»

«Больш за тое — я гатова паўтарыць яе некалькі разоў! — адказала Ярмошына. — Я страшэнна расчараваная жаночай часткай маладога пакалення — яны агідныя маці, яны паскудныя жонкі, яны не добрыя, не міласэрныя людзі. Таму — як хутчэй, трэба іх заклікаць да баршча, дзяцей, кніжак і гэтак далей. Я лічу гэтую фразу, а боршч — гэта тое, што патрапіла на язык, сімвалам дамашняй утульнасці.

Ты не маеш права ў 9 гадзін вечара ў нядзелю кінуць сваё дзіця і


PHOTO.BYMEDIA.NET

боўтацца недзе з мужыкамі. Калі чалавецтва загіне, то — па віне жанчын. Бо яны забываюцца на сваё прызначэнне жанчыны і маці».

«А можа яшчэ і па віне тых мужчын загіне чалавецтва, якія на плошчы білі жанчын гумовымі дубінкамі?» — перапытаўся карэспандэнт.

«А яны выконвалі свой службовы абавязак! — парыравала Ярмошына. — А ў іх службовыя абавязкі ўваходзіць у тым ліку і палку прымяніць супраць парушальнікаў незалежна ад полу. Дамы гэтыя прыйшлі па «поклічы» сэрца, а значыцца ўзялі на сябе рызыку любых наступстваў».

**Зміцер Лукашук, Еўрарадыё**

**Не ўсё ў жыцці апошні раз**

## Не забудзьцеся падпісацца на паўгоддзе!

**Падпіска праз Рэдакцыю**

Цана падпіскі праз Рэдакцыю на месяц складае 10000 рублёў.

Мы рэкамендуем падпісвацца праз Рэдакцыю.

Наша сістэма дастаўкі газеты за 5 гадоў даказала сваю надзейнасць. Мы зможам дастаўляць Вам газету хутчэй або з той жа хуткасцю, што «Белпошта».

**Каб штотыдзень атрымліваць газету, дасылайце адрасы і грошы за газету.**

1) Просім усіх ахвотных падпісацца паведамляць у Рэдакцыю свае адрасы і тэлефоны. Гэта можна зрабіць праз: тэлефоны: (017) 284-73-29, (029) 260-78-32, (029) 618-54-84, e-mail: dastauka@nn.by, паштовы адрас: 220050, г.Мінск, а/с 537.

2) Просім у бланку банкаўскага паведамлення ці паштовага пераказу дакладна і разборліва пазначаць адрас, у тым ліку паштовы індэкс і код пад'езда.

**Банкаўскія рэквізіты:**

ПВУП «Суродзічы», УНП 190 786 828

Аддз. № 539 ААТ «Белінвестбанк», вул. Калектарная, 11, Мінск, код 739

Рахунак атрымальніка: 3012 740 628 011

Від аплаты: За газету «Наша Ніва»

**Падпіска праз «Белпошту»**

**Пачалася падпіска праз «Белпошту»** на 1-е паўгоддзе 2012 года:

індывідуальная падпіска (індэкс у каталозе — 63125) — 15040 руб./месяц;

для прадпрыемстваў (індэкс — 631252) — 18045 руб./месяц.

Падпісацца можна на кожнай пошце.

**Сцісла**

**Шлюб Статкевіча і Адамовіч**

20 снежня ў Шклоўскай калоніі быў зарэгістраваны шлюб Марыны Адамовіч з палітвязнем Міколам Статкевічам. Марына расказала журналістам, што рэгістрацыі шлюбу яна дамагалася каля года. «Маладая» пара мае правa на суткі спаткання.

**Падатковая правярае пакупнікоў дарагіх іншамарак?**

У падатковай кажуць: нічога тут няма. Такі кантроль ажыццяўляецца штогод. Тым, чыя зарплата маленькая, давядзецца расказаць, адкуль грошы.

**Увага кіроўцам! Ноччу сняжок і галалёдзіца**

Пачынаючы ад 21 снежня, пагаршаюцца ўмовы на дарогах. Месцамі снег, галалёдзіца. Гэта патрабуе асцярожнасці на дарогах. Нельга рэзка тармазіць і разганяцца.

**Мінскія прастытуткі здалі махляра міліцыі**

Пры дапамозе фаташопа ён вырабіў сабе пасведчанне афіцэра прыдуманага ім жа сілавога ведамства. Праз інтэрнэт 30-гадовы мінчук знаёміўся з прастытуткамі, а пры сустрэчы прад'яўляў ліпавае пасведчанне. Заплюшчыць вочы на незаконныя заняткі ён пагаджаўся за пэўную ўзнагароду. Як паведамляе прэс-служба сталічнай міліцыі, часам махляр браў адступныя грашыма, часам — натурай. Бывала, што ён спалучаў абедзве формы «аплаты». Але адна з ахвяраў раскусіла махляра і паведаміла пра яго ў міліцыю.

**СГ**

**Святкуй Каляды! Слухай сваё!**

Калядная акцыя газеты «Наша Ніва» і БМАgroup! Усім чытачам «НН» пры набыцці любога кампакт-дыска, выдадзенага БМАgroup, у крамах кампаніі Master-records на вуліцы Кісялёва, 12 (ст.м. «Плошча Перамогі») і на Камароўцы — у падарунак дадаецца кампакт-дыск «Генералы айчыннага року». Абавязковая ўмова — мець пры сабе свежы нумар газеты «Наша Ніва».

Акцыя дзейнічае да 7 студзеня! Дадатковая інфармацыя па т.: (29) 649-08-88.

**Самае чытанае на nn.by за 14—20 снежня**

1 Актывісткі Femen раздзеліся каля беларускага КДБ

2 Мінск у гадавіну Плошчы: больш за трох не збірацца

3 Кіраўніца Femen: Дзяўчат абстрыглі, збілі, выкінулі ў лесе без дакументаў

4 Немцы адпалілі пра выбары ў Расіі — відэа

5 Дарэнка ў твітары: Лукашэнка сказаў, што ў еўрапейскіх лідараў няма яйцаў!

6 Ярмошына пра моладзь: «Яны паскудныя маці, дрэнныя жонкі»

7 Back in the USSR. Сто мінчукоў у чарзе па малако — фотафакт

8 Тозік: Дзяцей трэба рэальна загрузіць. У Кітаі ў школе вучацца да 22.00

9 Рымашэўскі прапаноўвае Лукашэнку сцэнар мірнай перадачы ўлады

10 Апытанне на вуліцах сталіцы: каго з кандыдатаў у прэзідэнты вы памятаеце?

# Паказалі красу КДБ

**Перформанс з раздзяваннем на прыступках Камітэта скончыўся для ўкраінскіх феміністак у лесе ў Ельскім раёне.**



Тры актывісткі ўкраінскага руху Femen зладзілі ў Мінску дзёрзкую акцыю. 19 снежня, у гадавіну Плошчы, Аляксандра Нямчынава, Іна Шаўчэнка і Аксана Шачко раздзеліся і сталі з плакатамі «Жыве Беларусь» і «Свабоду палітвязням» на прыступках беларускага КДБ. Яны начапілі бутафорскія вусы, а ў адной з жанчын быў намаляваны на спіне Лукашэнка.

Ахова зрэагавала не адразу. А калі ўсё ж кінулася разганяць акцыю, то найперш схапіла журналістаў — у тым ліку відэаапаратарку «НН» Таццяну Гаўрыльчык, фатографа Юлію Дарашкевіч і грамадзянку Аўстраліі Кіці Грын, якая прыехала з украінкамі. Апошнюю позна ўвечары дэпартавалі ў Літву. Беларусак-журналістак адпусцілі пасля 21-й, забраўшы тэхніку.

Актывісткам Femen спачатку ўдалося збегчы. Як яны пазней паведамілі журналістам, яны пабеглі за рог, хутка наткнуліся на міліцыянтаў, але тыя ці не звярнулі ўвагі, ці былі настолькі здзіўленыя, што не адважаліся на затрыманне. Аднак пасля 18-й гадзіны ўдзельніцы акцыі перасталі выходзіць на сувязь. Іх паплечнікі забілі трывогу.

Амаль суткі пра зніклых украінак нічога не было вядома. МУС і КДБ захоўвалі маўчанне, украінскае пасольства таксама не мела інфармацыі.

20 снежня каля 16.00 на сувязь выйшла Іна Шаўчэнка. Па яе словах, каля 19-й гадзіны папярэдняга дня дзяўчат на Усходнім аўтавакзале Мінска схапілі невядомыя. Пасля, адабраўшы мабільнікі і дакументы, выкінулі каля вёскі Бякі аж у Ельскім раёне Гомельскай вобласці. Гэта на самай мяжы з Украінай.

Дзяўчаты выбраліся з лесу, вясковец напаіў іх чаем і даў ім тэлефон, з дапамогай якога яны і звязаліся з сябрамі.

Пасля актывістак Femen даставілі ў Ельск, дзе агледзелі ў раённай бальніцы. Істотных пашкоджанняў не выявілі, толькі гематомы і сінякі на розных частках цела. Потым дзяўчат завезлі ў Ельскі РАУС.

Яны выглядалі стомленымі і прыгнечанымі: у Шаўчэнкі і Шачко парэзаныя валасы (Нямчынава была і дагэтуль каротка падстрыжана). На тварах – плямы зялёнкі.

Прадстаўніцы Femen паведамілі, што іх схапілі шасцёра і пры затрыманні ім адразу ж насунулі шапкі на вочы. Па словах дзяўчат, іх вывезлі ў лес, дзе пагражалі і ўсяляк здзекаваліся, аблілі галовы зялёнкай, прымушалі раздзецца дагала і трымаць плакаты з фашысцкай свастыкай. Усё гэта здымалася на відэакамеру, паведамілі ўкраінкі.

Да іх у Ельск прыехаў консул Украіны.

Украінскія СМІ спачатку досыць стрымана адрэагавалі на весткі з Беларусі. Напрыклад, кіеўскі журналіст Святаслаў Хаменка палічыў, што сцэна ў лесе інсцэнаваная актывісткамі Femen. Аднак па меры надыходжання інфармацыі большасць схіляецца да думкі, што вываз у лес быў помстай дзяўчатам да дзёрзасць.

## Садысцкая помста Femen-істкам: вывезлі ў лес, раздзелі дагала, здзекаваліся

Сусветныя СМІ пішуць пра здарэнне ў Беларусі як пра дзікасць. Адзначаюць, што Беларусь – гэта апошняя дыктатура Еўропы і што замежнікі баяцца прыязджаць у нашу краіну. Некаторыя з выданняў нагадваюць пра расправы над незадаволенымі і выкраданні людзей у Беларусі.

У свой час з мяшкамі на галаве, са звязанымі рукамі, вывозілі за межы Мінска і выкідалі недзе ў лесе Змітра Дашкевіча, Яўгена Афнагеля, Дзяніса Карнова. Вінаватых так і «не выяўлена».

Гісторыя з Femen розніцца толькі тым, што ў яе трапілі грамадзяне іншай краіны і дзяўчаты. І яркія медыйныя персанажы.

Начальнік цэнтра інфармацыі і грамадскіх сувязяў КДБ Аляксандр Антановіч на просьбу пракаментаваць інфармацыю пра выкраданне грамадзянак Украіны заявіў: «Няма ніякіх каментароў».

**Сямён Печанко, Настасся Шамрэй**

**Калі здаваўся нумар**

Аляксандру Нямчынаву, Іну Шаўчэнка і Аксану Шачко з Ельскага РАУС консульскім аўто перавезлі ва Украіну праз памежны пераход Новая Рудня. У Ельскім РАУСе не лічаць, што з боку дзяўчат мела месца «парушэнне памежнага рэжыму», бо грамадзянкі «патлумачылі, што ў памежную зону трапілі не па сваёй волі». Знайшліся яны, нагадаем, за 1,5 км ад мяжы з Украінай, у лесе.

# Гадавіна Плошчы: больш за трох не збірацца

**Каля Чырвонага касцёла затрымалі паўсотні удзельнікаў «акцыі надзеі».**

Праз год пасля шматтысячнай дэманстрацыі супраць фальсіфікацыі выбараў на сімвалічную акцыю на Плошчы выйшлі некалькі сотняў людзей. Ніхто з палітычных лідараў не ўзяў на сябе адказнасць за правядзенне пратэстаў, таму акцыя каардынавалася ў інтэрнэце. У сацыяльных сетках людзі заклікалі выйсці ўвечары 19 снежня на праспект Незалежнасці, каб «запаліць свечку надзеі».

На цэнтральных плошчах і ў дварах стаялі дзясяткі аўтобусаў са спецназам і аўтазакі, а сотні асобаў у цывільным і форме патрулявалі праспект. Асуджаных за Плошчу-2010 выклікалі ў міліцыю якраз на час правядзення акцыі, а лідараў моладзі блакавалі каля іх кватэр. Па сведчанні відавочцаў, міліцыянты мелі пры сабе раздрукаваныя фатаграфіі патэнцыйных удзельнікаў пратэстаў, напрыклад, маладафронтаўца Міколы Дземідзенкі.

У выніку найбольшая колькасць ўдзельнікаў сабралася каля Чырвонага касцёла, каб скончыць сімвалічную акцыю малітвай. Але і такія абсалютна мірныя дзеянні — выстаўленне лампадак — выклікалі жорсткую рэакцыю.

Разгонам акцыі кіраваў асабіста начальнік сталічнай міліцыі Аляксандр Барсукоў. Па ягоным загадзе ў падагнаныя да ўваходу ў касцёл мікрааўтобусы запіхнулі тры дзясяткі чалавек, прычым некаторых людзей валаклі па прыступках уніз галавой, хапалі і дзяўчат. Адзін з удзельнікаў, ратуючыся ад пагоні, ухапіўся за дзверы касцёла, але яго адарвалі і пацягнулі па прыступках у бусік.

Людзей хапалі і на іншых плошчах горада — Кастрычніцкай, Якуба Коласа. Агулам набралася з паўсотні затрыманых. Сярод іх былі былыя палітвязні Васіль Парфянкоў і Мікіта Ліхавід. Прычым апошняга затрымалі разам з мамай, якую яшчэ і ўдарылі па галаве. Большасць з затрыманых на наступны дзень атрымалі суткі зняволення.

**Ягор Марціновіч**



СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН

Абсалютна мірныя дзеянні — выстаўленне лампадак — выклікалі жорсткую рэакцыю

# Рымашэўскі прапаноўвае Лукашэнку сцэнар мірнай перадачы ўлады

**Беларуская хрысціянская дэмакратыя правяла ўжо чацвёрты ўстаноўчы з’езд.**

Мінулыя спробы скончаліся адмовай аб рэгістрацыі ад Міністэрства юстыцыі. Хадэкі не здаюцца — дабіваюцца праўды далей. У іх з’явілася новая расцяжка «Народная партыя з хрысціянскім сэрцам». А вось іншая атрыбутыка была як і на мінулых з’ездах.

У фае ДК МТЗ прадавалі мёд. Часовы паверны ЗША Майкл Скэнлан нават не ўтрымаўся, каб набыць збаночак.

Нязвыклай была толькі адсутнасць Паўла Севярынца. Як вядома, рухавік-стваральнік БХД цяпер адбывае пакаранне «хіміяй» у Пружанскім раёне.

Ад Севярынца быў заслуханы відэазварот. Павел, седзячы ў машыне ў бел-чырвона-белым шаліку, заклікаў да байкоту «поўнамаштабнага фарсу», як ён элегантна назваў парламенцкія выбары.

У падобным ключы выступаў і былы кандыдат у прэзідэнты Беларусі Віталь Рымашэўскі, які, сярод іншага, прапанаваў Лукашэнку мірны сцэнар перадачы ўлады. Ён прадугледжвае вызваленне палітычных зняволеных (у зале віселі партрэты палітвязняў), правядзенне свабодных выбараў і фінансавую дапамогу ад Еўропы для выхаду з крызісу.

Таксама Рымашэўскі даў тлумачэнне свайму лісту, які ён напісаў з СІЗА КДБ Аляксандру Лукашэнку. Сказаў, што гэта быў своеасаблівы кампраміс. Сілавікі такім чынам дабіваліся, каб кандыдат ад БХД назваў Лукашэнку прэзідэнтам.

Не абышлося і без стратаў. Цяпер у БХД засталося тры сустаршыні. Чацвёрты — Аляксей Шэін — папрасіў вызваліць яго ад гэтай пасады. «Рашэнне прымалася ў малітвах», — адзначыў Аляксей.

У БХД ён, тым не менш, застаецца. Пра супярэчнасці Шэіна з Рымашэўскім гаварылі яшчэ перад выбарамі, калі ён нават не ўвайшоў у давераныя асобы кандыдата ад сваёй партыі на прэзідэнцкіх выбарах.

У астатнім з’езд праходзіў даволі аператыўна. Гарачых дыскусій на ім не было. Галоўнай мэтай застаецца рэгістрацыя, а не ўнутрыпартыйныя пытанні.

Падчас галасавання па сустаршынях за Севярынца не было ніводнага голасу супраць ці тых, хто ўстрымаўся. Па Дзмітруку — шасцёра ўстрымаліся. Двое былі супраць, а яшчэ шасцёра ўстрымаліся па Рымашэўскім. Усяго на з’ездзе было 108 дэлегатаў.

Было нямала гасцей з-за мяжы. Крыху трапіў у лужу прадстаўнік Расіі, які нешта сказаў пра «саюзную дзяржаву». Дэлегатам тое не спадабалася. Быў экс-кандыдат у прэзідэнты Дзмітрый Ус, якога сустракалі доўгімі апладысментамі. Ус папрасіў далучыцца да яго ініцыятывы па змене выбарчага заканадаўства.

А вось Аляксандр Мілінкевіч, Аляксей Янукевіч ды Юрась Губарэвіч у гэты дзень вырашылі наведаць Паўла Севярынца «на высылцы».

У перапынку з’езда прайшлі сустрэчы «Моладзі БХД» (яе сапраўды было нямала) ды «Пенсіянераў БХД».

Скончыўся ж з’езд выступам Лявона Вольскага — у цемры, бо адрубілі электрычнасць.

**ЗП**

# Уладзімір Казлоў: Тыя самыя метады, той самы Назарбаеў

**Пратэсты ў казахскім Жанаазэні мы папрасілі пракаментаваць лідара апазіцыйнай незарэгістраванай партыі «Алга» Уладзіміра Казлова.**

Ён сам з Мангістаўскай вобласці Казахстана, дзе пражыў 40 гадоў. Толькі апошняе дзесяцігоддзе, калі апынуўся ў палітыцы, жыве ў Алматы.

Пратэсты пачаліся 16 снежня падчас святкавання Дня Незалежнасці Казахстана. Дэманстрантамі выступілі звольненыя нафтавікі, якія сем месяцаў праводзілі сваю акцыю на цэнтральнай плошчы Жанаазэня. Сілавікі ўжылі зброю. Больш за дзясятак чалавек было забіта.

**«Наша Ніва»: Спадар Уладзімір, што адбываецца ў Жанаазэні?**

**Уладзімір Казлоў:** Быў там двое сутак пасля пратэстаў. У горадзе абвешчаная каменданцкая гадзіна. Па вуліцах зусім не ходзяць людзі, асабліва мужчыны. З прадуктамі вялізныя праблемы, няма паставак. Цяпер туды вазілі журналістаў, дык іх нават не пакармілі ў гатэлі, бо не змаглі набыць ежу. Адно яйка цяпер каштуе 2 даляры. Міністр унутраных справаў заявіў, што будуць страляць у выпадку паўтарэння падобных пратэстаў.

**«НН»: Казахская прапаганда паказвае пратэстоўцаў як дэградаваных людзей.**

**УК:** Для гэтага трэба ўзгадаць падзеі 1986-га, калі ў Алма-Аце маладыя людзі выйшлі пратэставаць супраць прызначэння стаўленіка Крамля Генадзя Колбіна, які замяніў першага сакратара ЦК Кампарыі Казахстана Дзінмухамеда Кунаева. Тады тых людзей Назарбаеў таксама называў кучкай наркаманаў. А сёння іх імёны выбітыя на стэле ў Алматы, яны нацыянальныя героі.



У дзень, калі ў Жанаазэні пачаліся забурэнні, Назарбаеў адчыняў у Астане Трыумфальную арку.




Мангістаўская вобласць найбольш аддаленая ад казахскіх цэнтраў.

**Жэлтаксан**

16—18 снежня 1986 года ў Алматы студэнты і працоўная моладзь выйшлі на Плошчу. Яны гвалтоўна пратэставалі супраць прызначэння расейца Колбіна кіраўніком рэспублікі. Масква была ў шоку: лічылася, што самасвядомасць казахаў нізкая і яны паспяхова асімілююцца. На той момант, за час кіравання Дзінмухамеда Кунаева, казахі ўжо сталі меншасцю ва ўласнай рэспубліцы. Багатую на карысныя выкапні і чарназём краіну Расія праўдамі і няпраўдамі запаўняла перасяленцамі.

Выступ у Алматы паказаў, што казахі пачынаюць таксама адчуваць сябе нацыяй са сваімі правамі і інтарэсамі.

У часе падаўлення паўстання сілавыя структуры затрымалі 8500 чалавек, больш за 1700 чалавек атрымалі траўмы. Праз допыты ў пракуратуры і КДБ прайшлі 6200 чалавек. Крымінальна асуджаны былі 99 чалавек, звольнены з працы 319 удзельнікаў паўстання, адлічаны з ВНУ 309 студэнтаў.

КДБ не знайшоў прыкметаў наяўнасці арганізаванай апазіцыі за падзеямі. Было вырашана, што адбыўся стыхійны ўсплёск.

Тыя падзеі цяпер вядомыя пад назвай «Жэлтаксан» — казахская назва месяца «снежань».

**Паўтор 1986-га?**

Сутычкі ў Жанаазэні сімвалічныя тым, што адбыліся на 25-годдзе падзей у Алматы. Тады гэта быў першы ўсплёск нацыянальных пачуццяў, а цяпер — першы ўсплёск абурэння сацыяльнай няроўнасцю. Цікава, што ў 1989-м у тым самым Жанаазэні адбыліся моцныя сутычкі на нацыянальнай глебе. Мясцовыя жыхары выгналі з горада гандляроў-каўказцаў. Жыхароў Заходняга Казахстана вылучае моцнае пачуцце этнічнай салідарнасці.

**Назарбаеў**

Бунтары 1986-га хацелі, каб рэспублікай кіраваў малады старшыня ўрада Назарбаеў, а не прысланы з Масквы Колбін. З часам Масква вымушана была з гэтым згадзіцца. Бунтары 2011-га патрабуюць больш справядлівага размеркавання нацыянальнага багацця, якое кантралююць цяпер той самы Назарбаеў са сваімі дочкамі.



У Жанаазэні ўвялі надзвычайнае становішча.

Гэта тыя самыя словы, тыя самыя метады, той самы Назарбаеў.

**«НН»: Гэта выпадковасць, што паўстанне ў Жанаазэні ўспыхнула якраз у 25-ю гадавіну тых пратэстаў?**

**УК:** Магчыма, нешта такое планавалася. Але ў горадзе адбывалася святкаванне Дня Незалежнасці. Па казахскай традыцыі на цэнтральнай плошчы паставілі юрту, дзе гатавалі бешбармак, іншыя мясныя стравы. Там засядала гарадская адміністрацыя. У адзін з момантаў у бок нафтавікоў, якія былі на плошчы сем месяцаў — праводзілі эстафетную забастоўку, — паляцеў пакет з косткамі. Гэта і стала адной з прычын.

**«НН»: Ці ёсць у пратэстоўцаў нейкі палітычны аспект?**

**УК:** Не было. Апазіцыя таксама не навязвала ім свае погляды. Гэтыя людзі патрабуюць лепшых умоваў для сваёй працы. Вось і ўсё. Паказваць сёння, што гэта нейкія пагромшчыкі, проста абсурдна. Людзі сем месяцаў пратэставалі. І ніякіх інцыдэнтаў не здаралася, яны нават піва не пілі на плошчы.

**«НН»: Улады Казахстана спрабуюць паказаць пратэсты як правакацыю з боку замежных дзяржаваў, каб расшатаць стабільнасць у краіне.**

**УК:** Гэта канёк нашай прапаганды. Самае галоўнае — улады адкрылі агонь супраць пратэстоўцаў. Такое магчымае толькі ў краінах кшталту Лівіі, адкрытых дыктатурах. Нідзе ў свеце супраць дэманстрантаў не ўжываюць аўтаматы.

**«НН»: У чым спецыфіка Заходняга Казахстана ў цэлым і Мангістаўскай вобласці ў прыватнасці?**

**УК:** Гэта самы аддалены рэгіён краіны. Вялікія адлегласці. Там няма прыроднай чыстай вады, яе даводзіцца купляць у магазінах, каб нешта прыгатаваць. Гэта пустыня, пясок, пыльныя буры, там нічога не расце. Жорсткі клімат: плюс 30 летам і мінус 50 зімой. Тым не менш, гэты рэгіён з'яўляецца асноўным донарам краіны па здабычы нафты. Але па ўзроўні жыцця Мангістаўская вобласць адна з апошніх у краіне і адна з першых па ўзроўні розных захворванняў.

**«НН»: А якія заробкі ў нафтавікоў?**

## У юрце гарадская адміністрацыя ела бешбармак. У адзін з момантаў у бок бастуючых паляцеў пакет з косткамі. Тут і пачалося

**УК:** Вялікая разбежка паміж менеджарамі і рабочымі. Калі рабочыя атрымліваюць дзесьці 1500 даляраў у месяц, то менеджары 30—40 тысяч. Першаснае патрабаванне страйкоўцаў — годныя ўмовы працы.

**«НН»: А ісламскія ўплывы ў Мангістаўскай вобласці вялікія?**

**УК:** Яны мусульмане, але не ісламісты. Самі казахі смяюцца, што яны «найгоршыя ў свеце мусульмане». Калі там з'явіліся нейкія ісламісты, то іх проста выгналі.

**«НН»: Ці могуць пачацца пратэсты ў іншых рэгіёнах краіны?**

**УК:** Могуць. Племя адой, што жыве ў Жанаазэні, падтрымлівае вельмі цесныя сацыяльныя сувязі са сваімі супляменнікамі. Калі ў адным месцы супраць іх сваякоў ужываюць сілу, то гэтую несправядлівасць адчуваюць адойцы у іншых гарадах.

**«НН»: Папулярнасць Назарбаева сапраўды настолькі вялікая, як гэта паказваецца на выбарах?**

**УК:** Не, вядома. Рэальна Назарбаева падтрымлівае 30—35% насельніцтва.

**Кайрат**

Пры разгоне мітынгаў 1986-га казахі масава аказвалі супраціўленне. Загінуў нават адзін супрацоўнік сілавых структур (дружыннік). Вінаватым у ягонай смерці зрабілі 20-гадовага Кайрата Рыскулбекава, ураджэнца аула ў паўднёвай Джамбыльскай вобласці. Рыскулбекаў акурат прыйшоў з дэсантных войскаў, вучыўся на інжынера-будаўніка. Сваёй віны ён не прызнаў. Ён даказваў, што ўсяго толькі пабіў міліцыянта, які біў дзяўчыну, удзельніцу мітынгу.

Рыскулбекава асудзілі да смяротнага пакарання, але замянілі смерць на 20-гадовае зняволенне. Тым не менш, ён быў знойдзены павешаным у перасыльнай турме. Афіцыйна, ён засіліўся на майцы рэцыдывіста, які з ім сядзеў. Аднак у 1992 той урка прызнаў у адкрытым лісце, што забіў Кайрата на замову савецкіх спецслужбаў.

За просты факт публікацыі фота з суда, дзе Рыскулбекаў горда трымае галаву, былі звольнены рэдактары многіх казахскіх газет.

Рыскулбекава рэабілітавалі ў 1992-м. Выдалі ягоныя вершы асобнай кнігай. А ў 1996-м Назарбаеў прысвоіў яму імя «Героя Казахстана». Ягоным імем назвалі вуліцу ў Алматы, на якой стаяў універсітэт, дзе ён вучыўся.

**«НН»: У казахскім інтэрнэце кіпелі размовы пра ўдзел беларускага спецназа ў разгоне дэманстрантаў у Жанаазэні. Нешта пра гэта чулі?**

**УК:** Думаю, што гэта «качка». Беларусы ўсё ж моцна адрозніваюцца ад казахаў, мы б заўважылі. Але дыму без агню не бывае. Калі я ляцеў у Актау, то ў бізнэс-класе самалёта ляцеў нейкі вайсковец, не зразумеў адкуль. Яго сустракалі афіцэры казахскай арміі. Магчыма, ёсць нейкая дапамога на консультацыйным узроўні.

Гутарыў Зміцер Панкавец

# Топ-5 вынаходніцтваў беларускіх навукоўцаў



**Што нашы суайчыннікі прыдумалі за Год прадпрымальнасці?**

Калі беларускія ўлады аб'явілі пра надыход Года прадпрымальнасці, яны спадзяваліся, што Беларусь выйдзе на ўзровень перадавых еўрапейскіх краінаў. «Асноўным рухавіком рыўка з'яўляюцца прадпрымальнасць, актыўнасць і ініцыятыва», — гаварылася ва ўказе кіраўніка дзяржавы.

Большасць беларусаў скіравала сваю прадпрымальнасць на тое, каб знайсці даляры па старым курсе ці танна купіць прадукты. Аднак некаторыя нашыя суайчыннікі насамрэч праявілі актыўнасць і ініцыятыву і прадставілі сёлета свае вынаходніцтвы.

«Наша Ніва» прапануе хітпарад арыгінальных ідэй беларускіх Леанарда да Вінчы за 2011 год. Вытворчасць кожнага з пералічаных ніжэй тавараў магла б быць удалай бізнэсідэяй, але пакуль што чакае свaёй рэалізацыі.

### Аўтамабіль, які працуе на паветры

Аўтар гэтай на першы погляд немагчымай ідэі — Сяргей Латышаў. Ягоны аўтамабіль **(на фота)** не проста не спажывае электраэнергію, але яшчэ і стварае яе. «Калі машына ездзіць гадзіну, яна вырабляе мінімум 10 кілаватаў. Можна стварыць апараты, якія будуць гэтую энергію забіраць і выкарыстоўваць для іншых патрэбаў», — кажа вынаходнік.

Адкуль жа бярэцца энергія для руху? Для яе назапашвання працуе ўвесь аўтамабіль. «Дах пакрыты сонечнымі фотапераўтваральнікамі, ёсць восем ветрагенератараў, спецыяльныя прыстасаванні выкарыстоўваюць энергію тармажэння», — расказвае Сяргей Латышаў. У рух аўтамабіль прыводзіцца сціснутым паветрам, якое разганяе электрагенератар. Калі ж яно скончыцца, энергію можна падкачаць педаллю.

Па меркаванні аўтара ідэі, цана машыны можа складаць $40—50 тысяч, аднак яна павінна акупляцца за кошт эканоміі на паліве.

### Рысасушылка

Гэты праект пагражае стаць міжнародным. Прынамсі, ім усур'ёз зацікавіліся ў В'етнаме. Падчас візіту беларускай дэлегацыі мясцовыя спецыялісты паскардзіліся, што не могуць наладзіць механічную сушку рысу, якога ў краіне збіраюць 40 мільёнаў тон штогод. Дамоўленасць на пастаўку апаратаў ужо заключаная, і беларусам застаецца толькі наладзіць масавую вытворчасць.

### Інфрачырвоная каструля

Падсмажваць бульбу проста ў рондалі прапануе загадчык лабараторыі інфрачырвонай тэхнікі БДУІР Міхаіл Тхастоў. Ягонае вынаходніцтва спажывае мала энергіі, а працуе ўдвая хутчэй за аэрагрылі. Даследчык выкарыстоўвае старыя савецкія распрацоўкі, якія пасля развалу СССР сталі непатрэбнымі дзяржаве. Праўда, матэрыялы для чароўнага рондаля патрэбныя імпартныя, бо ні галагенныя лямпы, ні спецыяльнае шкло, якое прапускае інфрачырвонае выпраменьванне, у Беларусі не робяць.

### Электрамабіль ад школьніка

Гэтае вынаходніцтва адрозніваецца ад аўтамабіля Сяргея Латышава, названага вышэй, не толькі крыніцай энергіі для руху. Электрамабіль змог стварыць гродзенскі адзінаццацікласнік Аляксандр Казлоў з дапамогай сяброў. Максімальная хуткасць машыны складае 35 км/г, і ездзіць без падзарадкі аўто зможа тры гадзіны. Каб цалкам зарадзіць акумулятары, патрэбна 5 кілават — яны каштуюць каля 1000 рублёў.

«Адзін з акумулятараў знаходзіцца пад капотам, яшчэ тры стаяць у салоне, — расказвае вынаходнік. — Раму мы варылі з жалеза, а колы ўзялі ад мапеда».

Прадстаўлены праект — пілотны. Школьнік думае над тым, як павялічыць магутнасць рухавіка.

### Робат-экскурсавод

Яшчэ адзін праект ад маладых навукоўцаў распрацаваны ў Брэсцкім дзяржаўным універсітэце. Тут пачалі падрыхтоўку да Чэмпіянату свету па хакеі, які мае прайсці ў Беларусі ў 2014 годзе, і стварылі робата-экскурсавода. Ён будзе дапамагаць балельшчыкам на «Мінск-Арэне», паведамляючы даведкавыя дадзеныя. Стваральнікі спадзяюцца, што яны паспеюць навучыць робата адказваць на пытанні, якія будуць задаваць яму госці чэмпіянату.

**Ягор Марціновіч**

**Фотафакт**




**Сотні пенсіянераў стаяць у чэргах па танныя прадукты. Праз некалькі гадзінаў яны змогуць набыць літр 1,5%-га малака за 1420 рублёў.**

## «Беларусбанк» часткова аднавіў 5%-я крэдыты на будаўніцтва

**Грошы атрымалі не ўсе, а толькі выбраныя дамы.**

Некаторыя мінскія дольшчыкі, дамы якіх будуць здадзеныя ў эксплуатацыю ў 2012 годзе і пазней, атрымалі нечаканы сюрпрыз ад «Беларусбанка». Банк узнавіў выплаты па крэдытах на льготнае будаўніцтва. Пацверджанне гэтай інфармацыі «Наша Ніва» атрымала ад дольшчыкаў, якія будуюцца ў трох розных дамах Мінска.

Яны рыхтаваліся да горшага, але абышліся параўнальна малой крывёю. Толькі, як выявілася, радавацца маглі не ўсе. Паводле афіцыйнага каментара «Беларусбанка», ільготнае крэдытаванне не было ўзноўлена, а грошы атрымалі толькі дольшчыкі з некалькіх дамоў. Прынцып адбору дагэтуль не растлумачаны.

**Затрымка ў плацяжах склала два месяцы, за гэты час кватэры падаражэлі на трацiну**

У любым выпадку ў папярэднія месяцы са складанасцямі сутыкнуліся ўсе дольшчыкі. Некаторыя з іх, каб выканаць чарговы плацеж, былі вымушаныя адкрываць дадатковыя крэдытныя лініі па камерцыйных стаўках. Іншыя плацілі грашыма, адкладзенымі на рамонт. Тыя ж, хто чакаў сродкаў ад банка, засталіся ў істотным мінусе. За два месяцы неаплачаная частка кватэры вырасла ў цане на 32,4%, і розніцу ў коштце давядзецца аплачваць сваімі сродкамі.

Нагадаем, з 10 кастрычніка «Беларусбанк», спасылаючыся на рашэнне Савета міністраў, у аднабаковым рэжыме спыніў перавод грошай на рахунак забудоўшчыкаў.

**ЯМ**

## Урад падрыхтаваў бюджэт «пад заданне»

**У дакуменце прадугледжаны інфляцыйны рост ВУП на 5%.**

У панядзелак 19 снежня дэпутаты палаты прадстаўнікоў нарэшце прынялі дзяржаўны бюджэт на 2012 год. У канчатковым варыянце дакумента прагназуецца рост ВУП на 5,2%, як і патрабаваў ад урада Аляксандр Лукашэнка. Міністэрства эканомікі прапаноўвала больш сціплы варыянт, з ростам эканомікі ўсяго на 1,5%, які б змяншаў інфляцыю, аднак было вырашана спыніцца на ідэі Лукашэнкі.

Чыноўнікі спадзяюцца, што выдаткі і даходы бюджэту будуць роўнымі — па $10,1 мільярда. Бездэфіцытнасць — адна з умоў Міжнароднага валютнага фонду, магчымасць супрацоўніцтва з якім урад трымае пра запас.

Сярэдні курс даляра закладзены на ўзроўні 9150 рублёў, але нявaрта думаць, што такі ён будзе на працягу ўсяго года. Напрыклад, сёлета сярэдні курс даляра, па афіцыйных дадзеных, складае ўсяго... 4 376 рублёў.

**ЯМ**

## Расія прывяжа Беларусь і нафтай

**Беларусь падпісала доўгатэрміновыя нафтавыя пагадненні з Расіяй.**

Беларусь і Расія ўзгаднілі ўмовы пастаўкі расійскай нафты на беларускія нафтаперапрацоўчыя заводы на чатыры наступныя гады, аж да часу наступных прэзідэнцкіх выбараў. «Формула разліку цаны складаная. Але ў выніку яе зніжэнне складзе ад $20 да $40 з кожнай тоны», — праінфармавалі ананімныя ўдзельнікі перамоваў.

У Адзінай эканамічнай прасторы абмежаванняў і мытаў становіцца ўсё менш. У прыватнасці, знікла так званая «нафтавая прэмія», якая блакавала пастаўкі беларускіх нафтапрадуктаў у Расію.

Фактычна, Расія зніжае цану на нафту, але ўзамен Беларусь будзе прадаваць нафтапрадукты, выробленыя на яе заводах, назад у Расію. З 2012 года беларускі бензін з'явіцца на расійскіх запраўках.

Пераарыентацыя экспарту нафтапрадуктаў з ЕС і Украіны на Расію ўзмацніла б і без таго ўсёабдымную залежнасць Беларусі ад расійскага рынку.

Варта адзначыць, што на чале канцэрна цяпер стаіць менеджар, наняты ў Расіі. Ігар Жылін пераехаў у Беларусь у 2009 годзе.

**Сяргей Гезгала, ЯМ**

### Сціcла

**Ермакова: лепш дэнамінацыя, чым купюра мільён рублёў**

Нацбанк не плануе выпуск купюр 500 тысяч і мільён рублёў. «Калі ўжо прыйдзецца да такога падыходзіць, то лепш рабіць дэнамінацыю», — заявіла кіраўніца Нацбанка.

**Грашовы станок не працуе другі месяц запар**

У пачатку снежня рублёвая маса (дэпазіты ў нацыянальнай валюце + наяўныя рублі) склала 38,29 трыльёна рублёў, а месяц таму гэты паказчык быў на ўзроўні 38,375 трыльёна.

**Падатак на прыбытак зменшыцца на чвэрць**

З 2012 ён будзе паніжаны з 24% да 18%. Гэта будзе менш, чым у Расіі і Казахстане. Такім чынам улада спрабуе заахвоціць інвестараў.

**Газ для аўтамабіляў падаражэў на 21%**

У папярэдні раз цана расла ў кастрычніку (+10%).

**ЯМ**

Фермер **паскардзіўся на бяздзеянне** чыноўнікаў, а цяпер вымушаны адстойваць сваю праўду.

# «Сёння працуеш, а заўтра можаш усё страціць»



**Няма адпачынку, каб на Чорнае ці Белае мора з'ездзіць »**

**Андрэй з сям'ёй жыве са сваёй гаспадаркі. У краму толькі па хлеб ходзяць.**

Андрэй Гуляшоў — фермер са стажам. Жыве са сваёй гаспадаркі ў вёсцы Кароўчына Дрыбінскага раёна пятнаццаць гадоў. Гадуе авечак, кароў, качак, разводзіць пчол. Нядаўна вырашыў афіцыйна зарэгістраваць фермерскую гаспадарку.

Зарэгістравацца, праўда, не атрымалася. Раённае кіраўніцтва было не супраць. Але Андрэю трэба было выканаць шэраг патрабаванняў згодна са стандартамі. Галоўнае, што ён не можа зрабіць, — перанесці сваю гаспадарку на патрэбную адлегласць ад дома. А гэта на сотні метраў.

«Якая ж будзе тады праца?» — заўважае жонка гаспадара Ларыса. Напрыклад, калі чакаюцца ягняты, то па некалькі разоў на ноч даводзіцца хадзіць у хлеў. Ці находзішся так?

Раённыя начальнікі выхад знайшлі: параілі рэгістраваць гаспадарку, як ёсць. Што не адпавядае стандартам — пад уласную адказнасць. Андрэй адмовіўся ад прапановы. «Сёння працуеш, а заўтра можаш усё страціць». Ён прапанаваў старшыні райвыканкама разам паехаць да кіраўніка вобласці на прыём, але нікуды той не паехаў. Так і застаўся Андрэй гаспадаром прыватнай падсобнай гаспадаркі.

### Чыноўніцкія адпіскі

Неяк жонка фермера ўбачыла дакументальны фільм пра сельскую гаспадарку. У ім казалася, што ўся зямля ў краіне апрацоўваецца. Расказала мужу. Абое абурыліся. Толькі ў іх Кароўчыне зямлі пустуе столькі, што хопіць не на адну новую гаспадарку. Дзе-ндзе зямля ўжо бярэзнікам зарасла. А на паперы, упэўненыя фермеры, яна апрацоўваецца.

Звярнуліся да тагачаснага старшыні Дзяржкантролю Зянона Ломаця, прамая лінія з якім праходзіла ў Дрыбіне. Сказалі, што мясцовыя чыноўнікі не сочаць за зямлёй, адсутнічае штогадовая інвентарызацыя, не ліквідавана церазпалосіца.

Ломаць загадаў зняць з пасады старшыню сельсавета. Але Ломаця хутка самога замянілі. А мясцовыя чыноўнікі развязалі «папяровую цяганіну». З Дрыбінскага райвыканкама Гуляшовым адказалі, што з зямлёй пытанні вырашаны. Фермер не паверыў і запатрабаваў, каб праверка прыехала на месца разабрацца.

З КДК па Магілёўскай вобласці прысылалі кантралёра. Але яму мясцовыя чыноўнікі паказалі толькі тую зямлю, што выдавалася ў карыстанне вяскоўцам. Маўляў, у такіх несумленных гаспадароў зямлю назад забіраюць ужо ў СВК.

### «Па малазначнасці нанесенай шкоды»

З тэлефанавання да Ломаця ў Андрэя пачаліся праблемы. На пашу, дзе Гуляшовы выпасвалі сваю жывёлу разам з вясковай, забаранілі ганяць авечак. Прапанавалі пасвіць іх за 1,5 км ад гаспадаркі. На яго прапанову пашырыць плошчу пашы за кошт суседняй зямлі, што не выкарыстоўваецца, адмовілі. Нібыта закон не дазваляе. «А вось дапусціць зарастанне бярэзнікам дазваляе», — абураны гаспадар.

Гуляшовы пад сенажаць дамовіліся праз сельсавет выкарыстоўваць надзел суседкі. У кастрычніку яго ўзаралі — нібыта гаспадыня пісьмова адмовілася ад зямлі. Сама бабуля кажа, што нічога не падпісвала, подпіс на копіі дакумента не прызнала. Андрэй напісаў заяву ў абласную пракуратуру, але адказ даслалі з райвыканкама: усё ў парадку, подпіс — сапраўдны.

Спрабавалі Гуляшова і судзіць. Калі будаваў хлеў, зруб збіраў побач з дваром. Чыноўнікі абвінавацілі, што захапіў дзяржаўную зямлю. Суддзя справу закрыў — «па малазначнасці нанесенай шкоды».

### Надзея — на сябе

Сям'я Гуляшовых вылучаецца сярод вяскоўцаў прыярытэтамі ў жыцці. Галоўнае — праца, а затым усё астатняе. У Андрэя і Ларысы трое дзяцей: Раману — 16 гадоў, Паўлу — 13, Варвары — 7. Усе працуюць на гаспадарцы. «Працаваць трэба з раніцы да вечара. Няма адпачынку, каб на Чорнае ці Белае мора з'ездзіць», — адзначае гаспадар.

Хаця сын Раман сёлета адпачываў у Італіі. Хлопца здзівіла, што беларусы нічога не пераймаюць станоўчага ў замежнікаў. У Італіі на прыватнай гаспадарцы на першым паверсе людзі займаюцца вытворчасцю сыру, напрыклад, а на другім паверсе жывуць.

Андрэй сёлета пабудаваў новы хлеў. Пілараму набыў, каб драўніну для сваіх патрэбаў самому апрацоўваць, — збіраецца новую хату будаваць. На ўсё гэта сям'я зарабіла сама — у банку крэдытаў не бралі.

...А пра вялікую фермерскую гаспадарку Гуляшовы больш не задумваюцца. Па словах Андрэя, працаваць на зямлі і займацца жывёлагадоўляй становіцца цяжэй, насуперак заявам на высокіх узроўнях аб падтрымцы прыватных гаспадароў. Надзея толькі на свае рукі.

**Сяргей Макарэвіч,
Дрыбінскі раён — Мінск**

# «Дзяцей трэба рэальна загрузіць. У Кітаі ў школе вучацца да 22:00»

Працяг са старонкі 1.

Віцэ-прэм'ер упэўнены, што казаць неабходна не аб дасягненнях, а аб праблемах, што трэба зрабіць для таго, каб скарэктаваць грамадскую свядомасць, ствараць нармальную пазітыўную канкурэнцыю ў дзіцячым асяроддзі, фармаваць культ ведаў, усебаковага развіцця, культ здаровага цела і прыгожай гарманічнай асобы.

У Беларусі ёсць для гэтага ўмовы, але іх выкарыстанне пакідае зычыць лепшага, падкрэсліў Тозік (на фота).

Ён прыцягнуў увагу да пытання адказнасці сям'і за выхаванне дзяцей. «Галоўны інстытут выхавання дзіцяці — гэта сям'я. Астатнія інстытуты павінны дапамагаць ёй у гэтым», — упэўнены віцэ-прэм'ер.

Школьную нагрузку рэзка зменшылі некалькі гадоў таму, згодна з так званай «рэформай Рубінава». Тады зменшылі як колькасць гадзін па многіх прадметах, так і колькасць гадоў навучання ў сярэдняй школе.

**Сяргей Гезгала**



**Абмеркаванне тэмы на сайце nn.by**

Ён не падумаў, што ў дзяцей могуць быць іншыя інтарэсы акрамя вучобы ды нейкае асабістае жыццё? Ці ён хоча вырасціць пакаленне зомбі — паслухмяных, пазбаўленых усякага крэатыву...

**Пачвара**

Неканкурэнтназдольнае пакаленне вырасце абавязкова. Бо моладзі бракуе самастойных прыняццяў рашэнняў з прычыны татальнай рэгламентацыі жыцця. А не з-за дрэннай адукацыі.

**Бульбон**

З такімі падыходамі мы атрымаем тэхнакратычнае грамадства, бывайце будучыя пісьменнікі, дызайнеры, архітэктары.

**Сава**



Як педагог з 31-гадовым стажам цалкам пагаджаюся, што сённяшнія 24—27 тыднёвых гадзін у школе вядуць да поўнай дэбілізацыі. Абсалютная большасць дзяцей не ўмее нават чытаць (у 8—9 класах). Але загружаць іх трэба тым, чым трэба — мовамі, матэматыкай і да т.п.

**Лявон Баршчэўскі**

Я так разумею, што большасць чытачоў «НН» за працяг скарачэння нагрузкі на школьнікаў. Абы супраць улады. Ды сапраўды скарачэнне гэтае школьных праграм і праграм вышэйшых навучальных установаў вядзе да катастрафічнага зніжэння ўзроўню адукацыі грамадства! Так што да Кітая даходзіць не трэба, але ж павялічыць нагрузку не зашкодзіць. Але ж, на мой погляд, яшчэ больш вострае — гэта кадравае пытанне ў адукацыі, з такімі заробкамі ў настаўнікі і выкладчыкі ідуць, мякка кажучы, не самыя лепшыя.

**123**

З гэтымі рэформамі адукацыі так ужо накуралесілі, што трываць немагчыма. Заплечнікі як былі непад'ёмныя, так і засталіся, многія падручнікі (нават новыя) страшна разгарнуць — а ён на 14 гадзін дзяцей імі заняць хоча. А нашы дзеці хай змогуць пабыць дзецьмі, а не робата-вучнямі.

**Зацікаўленая**

Нагрузіць вучняў больш — не выхад. Трэба карэнным чынам пераглядаць праграмы. Дзеці не маюць у сваім узросце патрэбы ў абстрактных інтэгралах і інфузорыях. І «Вайна і мір» юнакам наўрад ці зразумелая (калі тыя ўвогуле яе асіляць).

Калі абапірацца на замежны досвед, то не на Кітай, дзе дысцыпліна — царыца ўсяго, а, напрыклад, на Фінляндыю, дзе сістэма адукацыі лічыцца найлепшай у свеце. Там ужо даўно дзеці вучацца таму, што веды спатрэбяцца ў жыцці, а не проста, каб здаць іспыт (са шпорамі) і заўтра ўсё забыць. І дзеці там ходзяць у школу з большым задавальненнем.

**Андрэй**

# «На гэтым тыдні Аўтуховіч вены сабе не рэзаў»

СМС-паведамленне з івацэвіцкай калоніі пра **спробу суіцыду** палітвязня Мікалая Аўтуховіча.

Паведамленне пра тое, што Мікола Аўтуховіч спрабаваў ускрыць сабе вену, прыйшло карэспандэнту радыё «Свабода». Нібыта спроба суіцыду была зробленая ў атрадзе. «Хутчэй за ўсё, адміністрацыя калоніі аказвае на яго ціск», — кажа сябра Аўтуховіча Алег Воўчак.

Перад гэтым было паведамленне, што палітвязня перавялі на месяц у памяшканне камернага тыпу. За што — дакладна невядома. Пасля таго як адваката Аўтуховіча Паўла Сапелку пазбавалі ліцэнзіі, вязень знаходзіцца без абароны.

Паводле звестак з івацэвіцкай калоніі, раны Аўтуховіча былі настолькі сур'ёзнымі, што для аказання меддапамогі яго вывозілі ў гарадскі шпіталь. Цяпер асуджанаму робяцца перавязкі.

Тым часам старшы інспектар спецаддзела івацэвіцкай калоніі № 5 Ірына Рэвінская заявіла, што з Аўтуховічам нічога не здарылася: «Усё з ім добра. Ва ўсялякім выпадку, я маю інфармацыю, што з ім усё цудоўна». Ірына Рэвінская таксама параіла не верыць СМС-паведамленням асуджаных, бо гэта «па меншай меры глупства».

У МУС кажуць, што, прынамсі, за апошні тыдзень спробаў суіцыдаў у Івацэвіцкай калоніі не было. «Калісьці даўно было нешта падобнае», — кажуць у МУС. Што тычыцца стаўлення да Аўтуховіча, то ў Міністэрстве сцвярджаюць, што яно непрадузятае.

Мікалай Аўтуховіч асуджаны на 5 гадоў і 2 месяцы калоніі ўзмоцненага рэжыму нібыта за незаконнае захоўванне і перавозку пяці патронаў і паляўнічай стрэльбы.

Першапачаткова яго абвінавачвалі ў падрыхтоўцы тэрарыстычнага акта супраць кіраўніка Гродзенскага аблвыканкама Уладзіміра Саўчанкі. Праваабаронцы залічылі яго ў спіс палітвязняў.

**Зміцер Панкавец**



Мікалай Аўтуховіч (злева) з сукамернікам. Фота зроблена на мабільны тэлефон у калоніі ў чэрвені.

# Польшча падтрымае кандыдатуру Бяляцкага на Нобелеўскую прэмію міру

Пра гэта піша польскае агенцтва ПАП **са спасылкай на дыпкрыніцы** ў Польшчы і Швецыі.

«Міністэрства замежных справаў мяркуе, што гэта вельмі добры кандыдат. Мы зробім крокі, каб зацікавіць ім Нобелеўскі камітэт», — заявіў афіцыйны прадстаўнік МЗС Польшчы Марцін Басацкі.

Ён не захацеў раскрываць падрабязнасці справы. Крыніцы ПАП адзначаюць, што дыпламатычныя захады ў гэтым пытанні будуць далікатнымі — Нобелеўскі камітэт не ўспрымае лабізму. Агенцтва не ўдакладняе, якой будзе польская падтрымка кандыдатуры і ці міністр Сікорскі асабіста вылучыць Бяляцкага. У Швецыі кажуць, што вылучэнне Бяляцкага разам падтрымаюць Польшча і Літва.

Беларускія спецслужбы «развялі» абедзве гэтыя краіны, атрымаўшы ад іх банкаўскія рэквізіты Бяляцкага. На тыя рахункі праваабаронца збіраў грошы для падтрымкі рэпрэсаваных. Лукашэнкаўцы арыштавалі яго, звінаваціўшы ў нясплаце падаткаў. Яго асудзілі на 4,5 года строгага рэжыму, а на ягоную маёмасць наклалі арышт. Самае каштоўнае ў маёмасці — кватэра ў цэнтры Мінска, у якой працавалі праваабаронцы.

У кастрычніку 29 грамадскіх дзеячаў з Беларусі і свету ўтварылі «Камітэт Бяляцкага». Да Аргкамітэта далучыўся шэраг знакавых асобаў з розных краін. Сярод іншых, расійская праваабаронца Людміла Аляксеева, старшыня Рады БНР Івонка Сурвілла, рэктар ЕГУ Анатоль Міхайлаў, былы прэзідэнт Чэхіі Вацлаў Гавэл.

Тэрмін вылучэння кандыдатур на Нобелеўскую прэмію міру сканчаецца 31 студзеня. Непасрэдна намінаваць на прэмію могуць толькі некалькі канкрэтных катэгорый людзей: дэпутаты парламентаў, міністры, лаўрэаты мінулых гадоў і прафесары палітычных навук.

Раней пра сваё рашэнне вылучыць Бяляцкага на Нобелеўскую прэмію абвесціў міністр замежных спраў Літвы Аўдронюс Ажубаліс.

Пакуль невядома, ці намінуюць Бяляцкага таксама шведы. Удзел Швецыі ў вылучэнні быў бы важным аргументам для Нобелеўскага камітэта.

**Мікола Бугай**

**Бяляцкаму дазволілі развітацца з бацькам**

82-гадовы бацька Алеся Бяляцкага ў цяжкім стане. Лік ідзе на гадзіны, а не дні. Суд Першамайскага раёна дазволіў палітвязню развітальную сустрэчу. Цяпер усё залежыць ад таго, ці дазволіць ГУУС Мінгарвыканкама канваяваць Бяляцкага з СІЗА.

Абвешчаны збор сродкаў для выплаты сумы, якую мусіць заплаціць Алесь Бяляцкі па пастанове суда. Гэта 757 млн 526 тыс. 717 рублёў. Суму важна ўнесці да разгляду касацыйнай скаргі на прысуд. Дата разгляду пакуль не вызначана. Гэта можа паўплываць на змену стрымання альбо меру пакарання. Грошы могуць пералічаць толькі грамадзяне Беларусі.

Філіял № 529 «Белсувязь» ААТ «АСБ Беларусбанк», код банка 720, аддзяленне 112.

**Код плацяжу:** 3819382100776.

**№ банкаўскага ўкладу:** 01053568.

**Від плацяжу:** ахвяраванне (альбо добраахвотны плацеж).

**Атрымальнік плацяжу:** Пінчук Наталля Сяргееўна.



СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН

# «Калі вырваўся нескалечаным — дзве ночы не спаў»

Былы палітвязень Аляксандр Класкоўскі **з жахам успамінае** месяцы зняволення.

**«Наша Ніва:» Чым цяпер займаецеся?**

**Аляксандр Класкоўскі:** Праехаў па тых месцах, дзе раней працаваў юрысткансультам. Але людзі не хочуць мець пільную ўвагу да сваіх фірм. Таму больш-менш годнага нічога не знайшоў. Яшчэ не тая сітуацыя, каб ісці грузчыкам працаваць ці кіроўцам-трактарыстам.

**«НН»: Пасля выхаду на свабоду ціск нейкі аказваўся на Вас?**

**АК:** Судзімасць захавалася, што ўспрымаю як ціск, і пільная ўвага з боку праваахоўных органаў. Асабліва калі праходзілі «маўклівыя серады». Калі планаваўся Народны сход, да мяне таксама заходзілі. Цяпер дзесьці раз на два тыдні заходзяць: перапісваюць усіх, хто знаходзіцца ў кватэры.

**«НН»: Як дзеці перанеслі працяглае расстанне з бацькам?**

**АК:** Калі мяне арыштавалі, малодшы сын нічога не разумеў. Старэйшыя дзеці, безумоўна, ведалі і сумавалі. Калі ў калоніі дазволілі доўгатэрміновае спатканне, жонка прыязджала да мяне з дзецьмі. Саму калонію яны ж не бачалі — толькі памяшканні, кшталту правінцыйнай гасцініцы. Малодшы пасля, як паехаў да бабулі, прасіў: «Хачу да таты ў турму».

**«НН» Ці чакалі, што ўвесь тэрмін правядзіце за кратамі?**

**АК:** Калі мяне затрымалі, спадзяваўся, што да суда справа не дойдзе. Спачатку думаў, што абвінавачванне не прад'явяць — палохаюць толькі. А пасля прысуда Васілю Парфянкову сумненняў не засталося. Меркаваў, менш за год нас не пратрымаюць за кратамі. Хаця я ўвогуле думаў, што Лукашэнка столькі не пратрымаецца.

**«НН»: Што было самым страшным у няволі?**

**АК:** Апошні тыдзень у калоніі быў страшным. Мяне не прасілі нічога пісаць — адразу пачалі прэсінгаваць. Калі вырваўся адтуль нескалечаным — дзве ночы не спаў.

**Сяргей Макарэвіч**



**Аляксандр Класкоўскі**

нарадзіўся ў 1978. Былы міліцыянт. Асуджаны на 5 гадоў калоніі ўзмоцненага рэжыму за ўдзел у падзеях 19 снежня 2010 года. Памілаваны А.Лукашэнкам у верасні. Жанаты, гадуе траіх дзяцей.

# Кіма заменіць Кім. 27-гадовы

**Памёр паўночнакарэйскі дыктатар** Кім Чэн Ір. Яго заменіць сын.

Кіраўнік КНДР памёр у суботу ў цягніку. Дыктар абвясціў народу гэтую навіну плачучы. Малодшы сын дыктатара Кім Чэн Ын узначаліў пахавальную камісію. Найхутчэй, ён зойме пасаду бацькі.

Кім Чэн Іру было 69 гадоў. Пахаванне адбудзецца 28 снежня, замежныя дэлегацыі на яго клікаць не будуць.

Лідар КНДР памёр «ад псіхічнага і фізічнага перапамлення, выкліканага бесперапыннымі інспекцыйнымі паездкамі па краіне ў інтарэсах будаўніцтва квітнеючай дзяржавы», перадалі дзяржаўныя агенцтвы.

Яго называлі «Вялікі кіраўнік». Ён быў сынам Кім Ір Сэна — «Вялікага правадыра».

Паўночная Карэя — самая закрытая краіна ў свеце. У рэйтынгах правоў чалавека і грамадзянскіх свабод КНДР нязменна займае апошняе месца. У краіне існуюць канцэнтрацыйныя лагеры. А біяграфія Кім Чэн Іра і яго бацькі вывучаецца ў школе асобным прадметам. Культ асобы ў Паўночнай Карэі блізкі да сталінскага.

Многія сумняваюцца, што ў зусім маладога Кім Чэн Ына, які на свеце не бачыў нічога, акрамя палацаў, і нікога, акрамя лёкаяў, будзе досыць розуму, каб паспяхова кіраваць краінай, якая яго ненавідзіць.

Яму прысвоена званне чатырохзоркавага генерала, хоць ён паўнаварта не служыў у войску зусім. Затое зрабіў пластычную аперацыю, каб быць падобным да славутага дзеда.

**Зміцер Панкавец**



Кім Чэн Ын вучыўся ў Швейцарыі. Цяпер ён будзе любімым кіраўніком Паўночнай Карэі.

## «Я бачыў, як карэйцы рыдалі ля помніка Кім Ір Сэна»

Камуніст, рэдактар «Товарища» Сяргей Вазняк расказаў, як зарабіў **значок з выявай** Кім Ір Сэна.

«Я трапіў у КНДР у 1994 — тады якраз пачалася трохгадовая жалоба па Кім Ір Сэну. Мы былі ў мясцовым піянерлагеры «Сандаван». Я бачыў цэнтральную плошчу Пхеньяна, дзе стаіць гіганцкі помнік Кім Ір Сэну. Дзясяткі тысяч людзей рыдалі ля яго. Я бачыў, як дзеці з нашага лагера а другой гадзіне ночы неслі кветкі за пяць кіламетраў да іншага помніка.

Людзі жывуць без усялякай інфармацыі пра знешні свет, у каго ёсць тэлевізар, могуць глядзець толькі адзін канал, які распачынаў трансляцыю з «Песні пра Вялікага Палкаводца Таварыша Кім Ір Сэна» і сканчваў «Песняй пра Вялікага Палкаводца Таварыша Кім Чэн Іра».

Усё дарослае насельніцтва мусіць насіць значкі з Кім Ір Сэнам. Я захацеў сабе такі і спытаў у адказнага супрацоўніка ЦК карэйскага камсамола, дзе можна купіць. На яго твары я ўбачыў сапраўдны жах, ён ледзь японскім шпіёнам мяне не палічыў — такія значкі не прадаюцца. І я, каб атрымаць значок, разам з персаналам нашага лагера кожны дзень а пятай гадзіне раніцы ішоў вышчыпваць траву перад помнікам таварышу Кім Ір Сэну».

**Юрась Ускоў**



**Бяда!**

## Давыдзька: Цяжка знайсці ахвотных працаваць на БТ

«Мне вельмі хочацца, каб у студыі навін з'явілася жанчына, якая адбылася: прыгожая, разумная, інтэлігентная... Ці мужчына гадоў сарака-пяцідзесяці... Але няма!

Мы ўжо і ў сваіх шэрагах прагледзелі ўсіх, каго маглі. На жаль, не адгукаюцца нават на аб'явы прыйсці на кастынгі, якія мы ладзім.

Нашы агенты ходзяць па тэатрах, угаворваюць акцёраў, але шматлікія людзі, якія адбыліся ў прафесіі, не хочуць нічога мяняць у сваім жыцці. Таму чытаць навіны прыходзіць моладзь. Але яны ж вырастуць».

**Генадзь Давыдзька, старшыня Белтэлерадыёкампаніі**



## «Дзякуй Кебічу, што не застрэліў»

**Топ-5** выказванняў Лукашэнкі падчас інтэрв'ю з Сяргеем Дарэнкам.

• Усе еўрапейскія лідары — гэта нішто. Яны ніхто, яны без яйцаў, прабач, гэта не мой тэрмін.

• Як бы мне страшна ні было, я нават гатовы, што, я не кажу аплёўваць, а ў акно палкамі будуць кідаць, калі я яшчэ буду жывы ці не жывы.

• Я буду або з клюшкай бегаць на пенсіі, ці на каньках катацца, але... галубоў я буду карміць? Я люблю звяроў, птушак, але не так, па горадзе, гэта недапушчальна. Я буду сядзець ціхенька недзе.

• Я сваіх кухараў вучыў гатаваць дранікі. Дранікі гатавалі, і цяпер нехта гатуе, як сабачы язык. Возьмеш за край дранька, і ён боўтаецца.

• Дзякуй Кебічу, што не застрэліў.

**ЗП**



**Фотафакт**

У анлайн-конкурсе прыгажосці «Міс Байнэт-2011» перамагла 27-гадовая жыхарка Полацка Марыя. Конкурс ішоў чатыры месяцы, ад 1 жніўня да 1 снежня. Суперфінал доўжыўся ад 6 да 11 снежня. У выніку з 20 фіналістак найбольшых сімпатый інтэрнэт-карыстальнікі выказалі палачанцы.



**Камертон Сяргея Ваганава**

## Калгасная праўда

Даніла Еўзікаў, мой першы настаўнік у газетнай справе, на пытанне «А што такое шапка?» моўчкі адчыніў скрыню пісьмовага стала і працягнуў папярэднюю «Сельской газете», дзе я толькі ўладкаваўся, «Колхозную правду». «Вось глядзі, — ён разгарнуў жаўцелую паперу. — Гэта і ёсць «шапка»...» Уверсе аршыннымі літарамі праз дзве старонкі цягнуўся ці то лозунг, ці то заклік: «Лекции — колхозникам, хлеб — государству!»...

Еўзікаў быў негаваркім, знешне сумным, але вельмі з'едлівым чалавекам. І сёння, праз паўстагоддзя, я памятаю яго глыбока схаваную ў вачах усмешку...

Не ведаю, ці ёсць у Генадзя Давыдзькі, галоўнага сёння тэленачальніка, пачуццё гумару ў прыватным жыцці. Публічны ягоны твар заўсёды вельмі сур'ёзны. Не дзіва: чалавек глыбока заклапочаны пошукам зруйнаваных духоўных каштоўнасцяў... Усе памятаюць ягоны слізкі першы крок на гэтым шляху — «калгасную», так бы мовіць, «праўду» пад назвай «Жалезам па шклу». Ну а нядаўняя хлусня пра сувязі Андрэя Саннікава з крымінальнікамі — увогуле вяршыня духоўнасці...

Знайшоў, здаецца, дасягнуў...

Але ж не, скуголіць.

Вось і ў нядаўнім інтэрв'ю беларускім «АіФ» так пазначыў сваю «галоўную думку»: «...Чаму раней людзі жылі адпаведна духоўным прынцыпам, па сумленні, а зараз галоўнае грошы, поспех, кар'ера, мамоны? Чаму мы прайгралі духоўную вайну? Трэба шукаць адказы на гэтыя пытанні»...

### Там што ні «патрон», што ні твар аж зіхацяць святлом узнёсласці »

Не буду спрачацца аб тым, што было раней, што цяпер, хто прайграў «духоўную вайну», а хто катастрафічна перамог...

Цікава іншае: дзе Давыдзька шукае згубленую духоўнасць.

Мусіць, у прэзідэнцкай «абоймe», у якой ён пазначыў і сваё месцазнаходжанне? Там што ні «патрон», што ні твар аж зіхацяць святлом узнёсласці ад спажывання духоўнай ежы з прэзідэнцкай сталоўкі. Сталоўкі, дзе частуюць такім простым, як калгасная праўда, «самагонам», што і «казла Барозу» моўчкі з'ясі, і «яйцамі Сарказі» не папярхнешся...

А, можа, у так званым «Клубе галоўных рэдактараў», дзе вядучы Давыдзька разам са сваімі газетнымі калегамі таксама любіць паразважаць аб духоўнасці? Слухаеш гэтых волатаў прапагандысцкай думкі і мімаволі губляеш пачуццё часу: ці сапраўды мінула звыш пяцідзесяці гадоў ад той «Колхозной правды»?! Ад той хвіліны, калі я ўпершыню даведаўся, што такое «шапка»?

Вярнуцца да рэчаіснасці можна толькі тады, калі здолееш разглядзець у вачах згаданых волатаў і іншых дзяржтэлевараў глыбока захаваную ўсмешку. Юрлівую. У адрозненне ад колішняй еўзікаўскай, трохі сумнай...

Хачу падказаць Давыдзьку і ягоным паплечнікам, дзе выступіць з чарговай лекцыяй пра духоўнасць: у даўжэзных чэргах за таннейшым, аж на 2 тысячы, чым у крамах, малаком на мінскай Камароўцы. Навошта баязліва ўлазіць у хаты праз тэлевокны? Навошта траціць дзяржаўныя сродкі на марныя пошукі? А ў чэргах якраз збіраюцца людзі, для якіх галоўнае — грошы. Яны падкажуць, дзе згубілася духоўнасць...

...Дарэмна ўсё ж я пакрыўдзіў газету «Колхозная правда», узгадаў недарэчную, быццам, «шапку». Між тым, як ні хаваў мой настаўнік з'едлівую ўсмешку, тая «шапка», у адрозненне ад сучасных, была праўдай без усялякага прапагандысцкага словаблудства. Больш выразнай дзяржаўнаідэалагічнай канструкцыі — што паўстагоддзя таму, што сёння — і знайсці цяжка...

А для Давыдзькі ў мяне сюрпрыз — тыднёвай даўніны аб'ява з рэкламнай газеты: «Продам «Колхозную правду» 1951 — 3 экз.». Прозвішча, тэлефон...

Раптам купіць.

Каб дакладней ведаць, каму сёння лекцыі, а каму хлеб...

Памёр **Вацлаў Гавэл**. Яму было 75 гадоў. Апошнім, што ён зрабіў для Беларусі, была падтрымка вылучэння Бяляцкага на Нобелеўскую прэмію міру.

# Сіла бяссільнага



На здымках фільма «Сыход» Гавэл хадзіў у майцы EuraBelarus.

«Яму больш прыемна сядзець у піўніцах ды разважаць пра справядлівасць, чым займацца палітыкай. Але абставіны вымусілі», — кажа пра Гавэла чэшская дысідэнтка Пятрушка Шустрава.

Дысідэнты ў Чэхаславакіі не былі шматлікімі, на іх глядзелі як на белых варон, дзівакоў. Прычым не толькі ўлады, але і самі грамадзяне, якія ў масе сваёй былі задаволеныя сацыялістычнымі буднямі.

«Праўда і любоў пераможуць хлусню і нянавісць», — паўтараў Гавэл. Казаў гэтыя словы, калі савецкія танкі ўваходзілі на вуліцы Прагі, калі яму не давалі друкавацца ў дзяржаўных выдавецтвах, калі пазбаўлялі працы, калі яму далі 4,5 года турмы «за падрыўную дзейнасць». Роўна столькі, як Бяляцкаму ў Беларусі сёлета, дарэчы.

Чэхаславацкім дысідэнтам, як сённяшнім беларускім палітвязням, прапаноўвалі пісаць лісты пакаяння і прасіць памілаваць. Не напісаў.

«Гавэл ёсць увасабленне палітыкі маральнай, ён ёсць антыподам так званай прагматычнай палітыкі, славутай «realpolitik», — мяркуе Вінцук Вячорка. Свае погляды на палітыку Гавэл апублікаваў у эсэ «Сіла бяссільных», якое некалі друкавалася па-беларуску ў часопісе «Крыніца».

У час Аксамітнай рэвалюцыі 1989-га менавіта Гавэл смела стаў на чале пратэстоўцаў. Потым парламент яго аднагалосна абраў прэзідэнтам Чэхаславакіі.

Ён быў не толькі маральным аўтарытэтам, але і эфектыўным

## Праўда і любоў перамогуць хлусню і нянавісць

палітыкам. Яму ўдалося правесці ў постсацыялістычнай краіне паспяховыя эканамічныя рэформы, што супадалі з ідэаламі дэмакратыі і гуманізму, якія вызнаваў Гавэл. Пры ім чэхі дабіліся вываду савецкіх войскаў. Рэвалюцыйныя перамены адбыліся без адзінай чалавечай ахвяры.

Некалі менавіта Гавэл сказаў, што без Беларусі і Украіны Еўропа не будзе поўнай. Чэшскі лідар сімпатызаваў беларусам, рэзка крытыкаваў Лукашэнку, разумеў і падтрымліваў змаганне беларусаў за сваю мову, культуру, бачанне гісторыі.v

Беларусы былі частымі гасцямі Гавэла. Менавіта ён прапанаваў Васілю Быкаву пераехаць у Прагу.

У 2003 годзе Гавэл перадаў рэдактару «Нашай Нівы» сваю прэмію «За грамадзянскія заслугі» імя Ганны Эленбоген. «Нашу Ніву» ён назваў тады «востравам незалежнасці» сярод дыктатуры.

Нават на здымках свайго апошняга фільма «Сыход» — пра палітыка, які рашыў адысці ад палітыкі — ён насіў майку з надпісам «ЕўраБеларусь».

Апошнім, што ён зрабіў для Беларусі, была падтрымка вылучэння Бяляцкага на Нобелеўскую прэмію міру.

**Зміцер Панкавец, Мікола Бугай**

# Вацлаў Гавэл. **Спроба жыць па праўдзе**

Уявім сабе, што аднаго дня дырэктар магазіна паўстане і не будзе больш выстаўляць транспаранты з лозунгамі, якія ён выстаўляў адно каб яго не чапалі; не будзе больш хадзіць на выбары, пра якія ён ведае, што гэта зусім не выбары; пачне казаць на сходах тое, што ён сапраўды думае, і знойдзе ў сабе досыць моцы, каб салідарызавацца з тымі, з кім яму загадвае салідарызавацца ягонае сумленне.

Праз такое паўстанне дырэктар крамы выйдзе з «жыцця ў хлусні», адкіне рытуал і парушыць «правілы гульні». Ён знойдзе сваё прыгнечанае «я» і сваю годнасць, ён вызваліць сябе. Ягонае паўстанне будзе спробай жыцця ў праўдзе.

Рахунак яму выставяць хутка: ён страціць сваю пасаду і вымушаны будзе працаваць шафёрам. Ягоны заробак стане меншы. Яму давядзецца адмовіцца ад надзеі з’ездзіць на адпачынак у Балгарыю. Далейшая адукацыя яго дзяцей апынецца пад пагрозай. Начальства будзе да яго чапляцца, калегі будуць глядзець на яго як на дзівака.

Насамрэч дырэктар крамы здзейсніў не толькі нейкае індывідуальнае, завершанае ў сваёй аднаразовасці парушэнне, ён зрабіў нешта непараўнальна важнейшае: парушыўшы правілы гульні, ён скасаваў гульню як такую. Ён пашкодзіў структуру ўлады, перарваўшы яе сувязі; ён паказаў, што «жыццё ў хлусні» — гэта жыццё ў хлусні.

... Саван «жыцця ў хлусні» зроблены з адметнага матэрыялу — пакуль ён герметычна ўкрывае ўсё грамадства, здаецца, што ён каменны. Але ў той момант, калі хтосьці робіць дзірку ў адным-адзіным месцы, калі адзін чалавек крычыць «Кароль голы!», калі адзін гулец парушае правілы гульні, такім чынам выкрываючы яе як гульню, усё раптам апынаецца ў іншым святле і ўвесь саван падаецца зробленым з паперы — ён нібы пачынае разлазіцца на маленькія шматкі.

**Эсэ было напісана ў 1980 годзе. Поўны тэкст: «НН», №1, 2005.**

### Пошта Рэдакцыі

**Назваць імем Вацлава Гавэла вуліцу ў Мінску**

Прачытаў на сайце Charter97.org артыкул Мікалая Халезіна «Нягучны пераможца» ў памяць пра Вацлава Гавэла. У каментарах да артыкула была ідэя назваць у гонар Гавэла адну з вуліц Мінска. Гэтая ідэя падалася мне слушнай. Я ўпэўнены, што сярод чытачоў знойдуцца неабыякавыя людзі, магчыма, можна будзе скласці зварот у адміністрацыю горада. Гэта будзе, магчыма, найлепшым ушанаваннем памяці чалавека, які столькі зрабіў для дэмакратыі і свабоды.

**Аляксей Жукаў, Мінск**

# Залатая мумія

Ці дазволена крытыкаваць геніяў? Піша **Сяргей Дубавец**.

Пераходзіць на асобу аўтара ў публічным абмеркаванні мастацкіх твораў — прыкмета нявыхаванасці і кепскага тону. Тое, дзе ты жывеш і за якія сродкі, у гэтым кантэксце такі ж аргумент, як у колішнім Брылёвым абразку, дзе дзве вясковыя кабеты сварацца-сварацца, а калі ўжо словы сканчаюцца, задзіраюць спадніцы і свецяць адна адной голым азадкам.

Патрабаваць ад часопіса не друкаваць кагосьці, бо я яго не люблю — таксама адзнака кепскага тону, а да таго ж — таталітарнага мыслення, што ўласна і ёсць хунвэйбінства.

Але гэта антураж.

Што да сутнасці спрэчкі, дык возьмем яе «чыстую рэшту».

Бахарэвіч стварыў моцны і трагічны вобраз Каяна Лупакі. Прасцей кажучы, сказаў пра Купалу нешта новае і па-свойму. Больш у дыскусіі ніхто нічога новага ці пасвойму не сказаў.

## Купала, як сонца — у кожнага свой

Калі пра Купалу не казаць чагосьці новага і па-свойму, Купала памірае, а мёртвы Купала нікому нецікавы.

Можна колькі заўгодна цягаць ягоную мумію па школах і колькі заўгодна крычаць, што ён жывы, але хто паверыць, калі ўсе бачаць труп?

Лупака — вобраз удалы і трапны, бо ён падымаецца над канкрэтыкай і выходзіць за межы беларускай літаратуры, становіцца ўніверсальным. Гэта метафара страчанага натхнення, атрафіраванага крэатыву, з чым сутыкаецца, мабыць, большасць літаратараў, «жыццёвы шлях прайшоўшы да паловы».

Муза ўжо даўно не прыходзіць, а што рабіць з заробленым сацыяльным статусам паэта, тым больш народнага? Пачынае дакучаць інтымнае пытанне: ці я ўжо Лупака ці яшчэ Купала?

Купалу немагчыма «зменшыць» ніякім вобразам ці, калі заўгодна, прысудам, абразай, лаянкай, перакрэсліваннем. Пасмяротнае выпрабаванне можа быць толькі адно — выпрабаванне забыццём. Купалу можна толькі забыць, страціць да яго цікавасць. Калі ж казаць пра яго нешта новае і пасвойму (нават абсалютна няважна што), ён будзе рэальна жыць, быць патрэбным, выклікаць цікавасць.

Ніхто не мае на яго манаполіі, і абаронцы яму непатрэбныя, яму патрэбныя крэатыўныя інтэрпрэтатары, дакладней, гэта ім яго трэба ўвесь час «будзіць». Ён дае ім на тое падставы.

Трэба моцна недаацэньваць Купалу, каб думаць, што ён «не вытрымае» Лупакі.

Купала-мумія сапраўды не вытрымае. А, скажам, мой Купала толькі цешыцца на нябёсах, што дае натхненне сучасным творцам на такія вобразы.


Янка Купала ў 1930-я, прататып Каяна Лупакі.

Што да нацыянальнай еднасці і слабасці, дык слабасць якраз ад некрэатыўнасці, ад заклікаў усім дудзець у адну дудку, а хто не дудзіць — той чужак.

Трэба паважаць творчасць іншага і, нават калі яна табе не падабаецца, падтрымліваць яго. Тады будзе еднасць і сіла перад тымі пагрозамі, што ідуць звонку культуры.

Тэкст Міхася Скоблы збудаваны на хібных пасылах.

Чаму для пісьменніка самае цяжкае выпрабаванне — пасмяротны поўны збор твораў? Хіба гэта не сведчанне запатрабаванасці творцы, калі нашчадкам патрэбны ўвесь ягоны свет? Памылкі вялікіх становяцца метафарамі і цэлам культуры гэтаксама, як і іх здабыткі.

Чаму, каму і ад каго трэба бараніць Янку Купалу? Ці хацеў бы Купала сабе такой абароны?

Чаму іншапланетная гідота ўжо не гідота? Чаму радкі пра «глюгу звесіў» і «згніўшую калоду», напісаныя, каб выклікаць агіду, не мусяць яе выклікаць? Чаму параўноўваць лукашызм са сталінізмам некарэктна? Хіба расейскія пісьменнікі не зазіраюць у «цёмныя каморы» сваіх класікаў? Колькі разоў нашчадкі «перакрэслівалі» Дастаеўскага! І хіба ад Дастаеўскага з-за гэтага нешта адвалілася? Чаму нельга перастаўляць склады ў псеўданіме, калі гэта мастацкі прыём?..

Словам, што ні сцверджанне, то пытанне. А галоўнае пытанне: ці гэта спрэчка за манаполію на Купалу? Адказ: так. І вось што самае важнае.

Манапалізаваць Купалу можна толькі ў выглядзе залачонай муміі. Тым часам Купала, як сонца — у кожнага свой і адзін для ўсіх, яго не манапалізуеш.

На што, дарэчы, ніякім чынам не прэтэндуе, бо і не можа прэтэндаваць эсэ Бахарэвіча.

Тое, што беларусы ўсё менш ведаюць Янку Купалу, — не добра і не дрэнна. Гэта натуральна. Як натуральна праходзіць міма «цёмнай каморы», у якой манапалісты трымаюць сваю залачоную мумію бясконца дарагога ім паэта.

**Радыё «Свабода»**

У інтэрнэце разгарэлася дыскусія вакол эсэ пісьменніка Альгерда Бахарэвіча «Цёмнае мінулае Каяна Лупакі». У тэксце, апублікаваным на сайце радыё «Свабода», аўтар жорстка крытыкуе прасавецкую творчасць Янкі Купалы ў 1930-я. Мастак і пісьменнік Рыгор Сітніца лічыць, што Бахарэвіч замахнуўся на святое: Купала — геній і «трэба адпаведна да яго ставіцца». Ці дазволена крытыкаваць геніяў?

# У Будславе зарэзалі 25-гадовую дзяўчыну



Алеся займала пасаду агранома: даглядала сад »

Яна працавала ў мястэчку **па размеркаванні.**

Трагедыя здарылася ў вёсцы Будслаў на Мядзельшчыне. Цела 25-гадовай Алесі знайшлі раніцай 9 снежня. Алеся была практыканткай, адпрацоўвала па размеркаванні ў суседнім Ілаве. У Будславе яна здымала хатку.

Шукаць Алесю пачалі пасля таго, як яна не выйшла на працу. На тэлефанаванні таксама не адказвала. Прыехалі да яе дахаты...

Здарэнне, мяркуюць мясцовыя жыхары, адбылося ўначы. Забойца трапіў у хату да дзяўчыны праз акно (шыба была пабітая). На целе загінулай былі нажавыя раненні, мноства сінякоў.

Па падазрэнні ў здзяйсненні злачынства ўжо затрыманая сямейная пара з Будслава. Людзі кажуць, што да іх дома прывёў службовы сабака, які «ўзяў след» на месцы злачынства.

Крымінальная справа заведзеная па артыкуле 139, ч.2, п.6 КК (забойства, здзейсненае з асаблівай жорсткасцю). Караецца ад васьмі гадоў пазбаўлення свабоды да смяротнага пакарання.

Вядзецца следства. Міліцыя каментароў пакуль не дае.

«Яна была вельмі вясёлай. Заўсёды ўсміхалася. У яе ніякіх сакрэтаў ні ад каго не было, заўжды падзеліцца, параіцца. Стылёвая, сімпатычная, даверлівая... Увогуле добры чалавек і адказны работнік. Яна займала пасаду агранома: даглядала сад. Але заўжды казала: «Хутчэй бы адпрацаваць». Шмат хто зайздросціў ёй», — расказала Таццяна. Яна пазнаёмілася з Алесяй летам у Будславе, калі тая толькі прыехала працаваць.

«У яе быў хлапец з Горак. Летам нехк прыязджаў. Але замуж яна не збіралася, пакуль не адпрацуе. Я не ведаю, з кім у яе маглі быць праблемы. З мясцовымі яна амаль не кантактавала», — адзначыла Таццяна.

Алеся была з Кіраўскага раёна Магілёўскай вобласці. Сёлета скончыла аграэкалагічны факультэт Горацкай сельскагаспадарчай акадэміі. Прыехала па размеркаванні на прадпрыемства «Ілаўскае».

**Сяргей Макарэвіч**

## У Падмаскоўі на пажары загінулі шэсць беларускіх будаўнікоў

Пажарныя **ўратавалі трох.**

У Маскоўскай вобласці 18 снежня на пажары загінулі беларускія будаўнікі. Трагедыя здарылася ў вёсцы Глухава Краснагорскага раёна на тэрыторыі будаўнічай пляцоўкі, дзе выраблялiся кінапавільёны для кампаніі «Галаўкіно» рэжысёра Фёдара Бандарчука. А 4-й гадзіне раніцы загарэліся восем аднапавярховых драўляных бытовак, паведаміла МНС Маскоўскай вобласці. Плошча пажару склала каля 80 кв.м. Пажарныя змагаліся з агнём больш за гадзіну.

Пасля тушэння пажару высветлілася, што ў агні загінулі шэсць будаўнікоў. Па інфармацыі расійскай паліцыі, усе яны з'яўляліся грамадзянамі Беларусі. Па інфармацыі мясцовых СМІ, пажарныя ўратавалі трох чалавек, іх з апёкамі шпіталізавалі ў Красногорскую бальніцу.

Па факце здарэння пра-водзіцца праверка. На целах загінуўшых не знойдзена прыкмет гвалтоўнай смерці. Мяркуецца, што прычынай пажару маглі стаць розныя фактары: ад неасцярожнага абыхо-джання з агнём да няспраўнасці электраправодкі.

Як паведамілі карэспандэнту «НН» у прэс-службе МЗС, ведамства пакуль не валодае афіцыйным пацверджаннем таго, што загінуўшыя і пацярпелыя ў выніку пажару ў Падмаскоўі з'яўляюцца грамадзянамі Беларусі. Па непацверджанай інфармацыі, у бытоўках разам з беларусамі жылі будаўнікі з Украіны.

**Сямён Печанко**



**У 2004 пад Масквой згарэла пяць беларусаў**

Сем гадоў таму ў Падмаскоўі ўжо здаралася падобная трагедыя. Пяць беларусаў учадзелі ў выніку загарання драўлянай бытоўкі на будаўнічай пляцоўцы. Прычына пажару — неасцярожнае абыходжанне з агнём.

У лютым 2008 у Маскве два будаўнікі з Беларусі загінулі пад жалезабетоннай канструкцыяй, якая нечакана абрынулася на іх. Яшчэ адзін беларускі будаўнік быў цяжка траўмаваны.

**У Беларусі загінулі будаўнікі з Літвы і Узбекістана**

У жніўні мінулага года ў Мінску на адной з будоўляў у выніку абвалу грунту загінуў будаўнік з Узбекістана. Два ягоныя землякі трапілі ў бальніцу.

У маі гэтага года на будоўлі забаўляльнага комплексу на праспекце Пераможцаў загінуў літоўскі будаўнік. Ён атрымаў смяротную траўму пры складванні бетонных блокаў.

**Падрыхтаваў СП**

## «Часта такія трагедыі здараюцца з-за слабай дысцыпліны»

Будаўнік Аляксандр С. расказаў **пра побыт беларускіх шабашнікаў** у Расіі.

Аляксандр нярэдка ездзіць працаваць на расійскія будоўлі, а гадоў дзесяць таму шабашыў у Польшчы. Па яго словах, тады палякі не вельмі клапаціліся пра бытавыя ўмовы для будаўнікоў з Беларусі. Месца для начлегу даводзілася шукаць самастойна. Аднойчы давялося два тыдні спаць на вуліцы пад красавіцкім небам на пенапластавых пласцінах. Пазней беларускія шабашнікі «перасяліліся» ў гумно.

У Расіі Аляксандру даводзілася бачыць розныя ўмовы для жыцця. Ад баракаў, якія нагадвалі турму, да незаселеных яшчэ харомаў аднаго з наменскаў старшыні «Газпрама».

Будаўнік нядаўна вярнуўся з поўначы Расіі і ў хуткім часе з'едзе туды ізноў. «Там мы жывём даволі камфортна. Хто ў інтэрнаце з усімі зручнасцямі, хто на здымных кватэрах».

Па яго словах, часцей за ўсё такія трагедыі здараюцца з-за нізкай культуры быту і дысцыпліны. «Нашы людзі любяць выпіць, а потым закурыць, кінуць недапалак не затушыўшы». Часта для абагрэву і прыгатавання ежы выкарыстоўваюцца саматробныя прыстасаванні, далёкія ад патрабаванняў пажарнай бяспекі.

**СП**

## Міліцыя шукае пярсцёнак па справе, якая чапляла «эскадрон смерці»

Следчыя разлічваюць з яго дапамогай **раскрыць жорсткае забойства** 11-гадовай даўніны.

У сакавіку 2000 на здымнай кватэры аднаго з дамоў па Партызанскім праспекце ў Мінску ўраджэнец Азербайджана знайшоў трупы сваёй сужыцелькі, яе брата і сям'і сваіх суайчыннікаў, сярод якіх было і цела пяцігадовай дачкі. Усяго ў гэты дзень загінула пяць чалавек, а сам гаспадар застаўся ў жывых толькі дзякуючы адсутнасці ў кватэры на момант жорсткай расправы.

Пры аглядзе памяшкання, дзе злачынцы зрабілі беспарадак, было ўстаноўлена, што нападнікі выкралі дакументы і вялікую колькасць залатых ювелірных вырабаў, у тым ліку і заручальны пярсцёнак адной з загінулых жанчын.

На ўнутраным баку пярсцёнка быў выгравіраваны памятны надпіс «Эльхан і Мэджыд».

Гэта злачынства застаецца нераскрытым да сённяшняга дня. У ходзе расследавання аператыўнікі ўстанавілі, што пярсцёнак з надпісам пазней набыў адзін з жыхароў Беларусі і захоўвае яго ў сябе.

«Гэты ювелірны выраб з'яўляецца ключавым рэчавым доказам па крымінальнай справе, у сувязі з чым упраўленне крымінальнага вышуку крымінальнай міліцыі ГУУС Мінгарвыканкама звяртаецца з просьбай да ўладальніка пярсцёнка выдаць яго, чым выканаць свой грамадзянскі абавязак і дапамагчы расследаванню», — гаворыцца ў паведамленні ГУУС.

Усіх грамадзян, якія валодаюць якойнебудзь інфармацыяй аб гэтым жорсткім злачынстве і лёсе выкрадзенага пярсцёнка, міліцыя пераканаўча просіць звярнуцца ва ўпраўленне крымінальнага вышуку па тэлефонах: 239-40-96, 375-29-373-43-03 (vel.) альбо ў дзяжурную частку ГУУС Мінгарвыканкама па тэлефонах: 102, 227-02-21, 375-29-356-02-02, 375-29-861-79-02. Канфідэнцыйнасць і ўзнагароджанне гарантуюцца.

11 год таму па справе забойства сям'і выхадцаў з Азербайджана праходзілі былыя спецназаўцы Валерый Ігнатовіч і Максім Малік, абвінавачаныя і асуджаныя па справе знікнення журналіста Змітра Завадскага.

**Паводле БелаПАН**

**Фотафакт**



Выйшаў альбом працаў Уладзіміра Цэслера — Your Tsesler, ці «Ваш Цэслер». Гэта тое, чаго напраўду не хапала: адзінкавыя працы мастака можна было ўбачыць толькі на выставах плакатаў і куды больш рэдкіх персанальных выставах. Альбом выйшаў у калекцыі часопіса «Партызан». Выдаўцы зрабілі спробу аб'яднаць усё, чым праславіўся Цэслер: саколкі і паштоўкі з правакацыйнымі надпісамі, лубкі нашага часу, знакамітыя персаніфікаваныя яйкі і геніяльныя рэкламныя плакаты.

**ЮУ**

# ТБМ пераклала правілы дарожнага руху

**Правілы выйдуць кнігай** пасля праверкі ў Цэнтры прававой інфармацыі.

«Гэта сапраўдная ручная праца, — кажа намесніца старшыні Таварыства беларускай мовы Алена Анісім. — Разам з энтузіястамі Юрасём і Святланай Гецэвічамі мы стварылі поўны пераклад».

Кніга гатовая. Яна прайшла экспертызу ў Інстытуце мовы і літаратуры Акадэміі навук. Пасля праверкі ў Цэнтры прававой інфармацыі ТБМ зможа выдаць яе. Разам з правіламі створаны і канспект для падрыхтоўкі да здачы іспыту на правы кіроўцы.

У той жа час дзяржаўны Цэнтр прававой інфармацыі таксама стварае беларускамоўную версію Правілаў, таксама неафіцыйную. Каб зацвердзіць такі дакумент афіцыйна, трэба спецыяльны ўказ кіраўніка краіны.

З розначытаннямі адных і тых жа тэрмінаў сутыкнуліся і ў ТБМ падчас лінгвістычнай экспертызы. Калі паглядзець на праўкі, то складаецца ўражанне, што некаторыя тэрміны эксперты Акадэміі навук рэкамендавалі змяніць на бліжэйшыя да расійскага варыянта.

Напрыклад, «аўтацягнік» — на «аўтапоезд», «паганятага скаціны» — на «паганятага жывёлы», «жвіровы» — на «гравійны», «брук» на «брусчатку» і «пас» — на «рэмень». Таксама паводле расійскіх аналагаў было прапанавана словы кшталту «Х-вобразны» замяніць на «Х-падобны».

Які з варыянтаў Правілаў — дзяржаўны ці ТБМ-аўскі, — выйдзе лепшым, пакуль не зразумела. Аднак неафіцыйнымі будуць абедзве версіі. Паводле словаў Юрася Гецэвіча, ёсць ужо папярэдняя дамоўленасць з некалькімі выкладчыкамі мінскіх аўташкол, што яны па жаданні навучэнцаў будуць выкладаць правілы на беларускай мове.

**Юрась Ускоў**




**Сцісла**

**Новая песня «Ляпісаў»: «Цмок ды Арол»**

Па просьбе фанаў гурт «Ляпіс Трубяцкой» выклаў у інтэрнэт рэпетыцыйны запіс новай песні «Цмок ды Арол». «Чорныя воблакі. Белы анёл. Вечныя ворагі — Цмок ды Арол», — спявае Міхалок.

**У Маладзечне забаранілі кліп IQ48 за словы «Хай Мікі Маўс вісіць у лядоўні»**

Рэдактар маладзечанскага мясцовага тэлеканала не пусціў у эфір кліп гурта IQ48 «Прыяцель», пачуўшы ў ім намёкі на галоднае жыццё ў Беларусі. А радок «І хай Мікі Маўс вісіць у лядоўні», паводле рэдактара, — гэта намёк на партрэт першай асобы краіны ў лядовым палацы. Песню можна паслухаць у інтэрнэце.

**Памерла спявачка Сезарыя Эвара**

17 снежня спынілася сэрца вядомай спявачкі Сезарыі Эвары. У канцы верасня яна заявіла пра скончанне музычнай кар'еры. Ураджэнка астраўной дзяржавы Каба-Вердэ спявала на мясцовым дыялекце партугальскай мовы. Яе называлі «басаногай дзівай», бо на сцэну заўсёды выходзіла басанож, у знак павагі да сваіх супляменнікаў, што жылі ў галечы. Абуткам карысталася толькі ў краінах з халодным кліматам, як Беларусь.

Ёй было 70 гадоў. Сусветная слава прыйшла да яе ў 51 год, калі быў выпушчаны яе альбом «Міс Перфумаду». На сваёй радзіме яна цалкам фінансавала сістэму пачатковай адукацыі. 10 сакавіка 2011 г. яна выступала ў Мінску ў Палацы Рэспублікі.

**Эскіз вокладкі «Беларускага календара» на 1911 год выстаўлены на аўкцыён**

На інтэрнэт-аўкцыён ay.by выстаўлены эскіз вокладкі «Беларускага календара» за 1911 год, выдадзены «Нашай Нівай». Верагодны аўтар эскіза — Язэп Драздовіч. Першапачатковы кошт лота — $100, ці 879 000 рублёў. Эскіз выкананы алоўкам, тушшу і бяліламі.

**ЮУ; generation.by**



PHOTO.BYMEDIA.NET

**У Беларусі з'явіўся аналаг «Грэмі». У Мінску ўручылі першую нацыянальную прэмію ў галіне эстраднага мастацтва. Песняй года былі прызнаныя «Караблі» Дзмітрыя Калдуна (на фота). Гуртам года абраная «Тройца».**

# Новы фільм пра Плошчу

У Мінску адбыўся прыватны прэм'ерны **паказ фільма «Даволі! Да Волі...»** рэжысёраў Вячаслава Ракіцкага і Андрэя Куцілы.

Дакументальная стужка распавядае пра падзеі, што разгарнуліся ў Мінску 19 снежня 2010, пасля прэзідэнцкіх выбараў, пра масавыя маніфестацыі і рэпрэсіі супраць іх удзельнікаў. Але фільм зусім не... палітычны. У ім узнімаюцца праблемы этычныя, маральныя, людскія.

Аўтары ставілі за мэту распавесці пра шараговых удзельнікаў акцыі пратэсту 19 снежня. Вынікам паходу па Волю сталі болей як 700 чалавек сталі зняволенні ад некалькіх сутак да 6 гадоў.

Кіно доўгае і цяжкае, яно не дае аслабіць увагу ні на хвіліну. Фільм падзелены на часткі, напрыклад — Да Волі, Сцяна, Краты, між якімі стаяць асобныя гісторыі асобных людзей — шарагоўцаў Плошчы. І, слухаючы іх словы, якія даюцца каму лягчэй, каму цяжэй, разумееш, што шлях да волі ляжыць праз пакуты. І гэтыя пакутнікі ясна ўсведамляюць гэта.

Фільм Ракіцкага і Куцілы зняты ў монахромнай гаме: белы снег, бель сцягоў і чырвань на іх, чырвань на снезе, а яшчэ чорнае неба і чорныя адзежы тых, хто рве сцягі, б'е жанчынаў і хавецца за чорныя маскі. Скупая колеравая гама надае фільму асаблівы дух гістарычнай аб'ектыўнасці. Як і кадры з саміх гістарычных аб'ектаў — сумнавядомай «Валадаркі», якую, аказваецца, сперазалі стальнымі цягамі, каб не развалілася; «Амерыканкі», дзе катавалі ды забівалі за беларушчыну яшчэ ад часоў Сталіна...

Аўтары пазбягаюць уласных каментароў і эмоцыяў. Амаль увесь тэкст фільма прамоўлены вуснамі герояў 19 снежня.

Пасля паказу фільма слова ўзяў класік дакументалістыкі Віктар Дашук, настаўнік абодвух рэжысёраў. Ён правёў паралелі між цяперашнім рэжымам і нацыстамі, пра дзейнасць якіх Дашуку вядома як нікому. Славуты дакументаліст паставіў перад сабой і гледачамі найцяжэйшае пытанне: як адбываецца гэты пераход у тых, хто працуе на рэжым, ад людскасці да бязлітаснага шаленства? А яшчэ, дадаў Дашук, ён убачыў у фільме таленавітых Грамадзянаў. Бо ў нас не бракуе творцаў — пісьменнікаў ці мастакоў, а вось жа таленавітых Грамадзянаў — вобмаль.

**Сяргей Харэўскі**

# Стойлавы перыяд

Не пакідаць ворагу ні банана! Фельетон.

Паседжанне Рады бяспекі па пытанні пагрозы НАТО і падрыхтоўцы да зімовага стойлавага перыяду праходзіла, як і патрабаваў прэзідэнт, у дзелавым стылі. Спярша абаронны міністр далажыў пра планы ворага супраць нашай Радзімы. Потым прааналізаваў матэрыяльныя магчымасці агрэсараў і нашу здольнасць да супраціву. Высветлілася, што наша войска мае патронаў і снарадаў на трое сутак няспыннай страляніны, гранаты і гарбузы можа шпурляць хоць да Каляд, а авіяцыя можа лётаць сорак восем гадзін без пасадкі. Танкі, не прысядаючы, здолеюць змагацца таксама трое сутак, калі іх падтрымаюць цяжкія КСК. Пасля — капцы.

(Міністр асцярожна абмінуў далікатную тэму трапнасці нашых вайскоўцаў. Апошняя інспектарская праверка паказала, што сярэдні салдат з пяці стрэлаў чатыры разы не трапляе з пяці метраў у дупу нерухомаму слану).

Пачуўшы гэтакі прагноз, прэзідэнт ускіпеў, прыйшоў у шаленства, абвінаваціў усіх у зладзействе, карупцыі і маладушнасці і запатрабаваў павялічыць тэрмін магчымай вайны да тыдня з наступным выхадам да Ла-Манша.



**Усіх хвалявала пытанне, дзе будзем капітуляваць і як ратавацца ад гаагска-палявых судоў.** »

СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН

Нехта моцны ў геаграфіі асмеліўся запярэчыць, што да Ла-Манша далёка, што можам не паспець. Гэта яшчэ болей раз'ятрыла галоўнакамандуючага: «Савецкай уладзе было недалёка, а вам за светам?! Моташна слухаць!»

Пасля завялі прагматычную гаворку пра малаверагоднае, але магчымае тактычнае выраўнанне лініі фронту для далейшага наступу. Усіх хвалявала пытанне, дзе будзем капітуляваць і як ратавацца ад гаагска-палявых судоў.

Прэзідэнт, які палагаднеў пасля карца валяр'янкі, сонна паслухаў развагі генералаў і абвясціў: «Адступаць будзем да Масквы і далей да Урала. Вы думаеце, усе гэтыя гады я дарма каўтаў сліну іхніх пацалункаў, клянчыў нафту, шліфаваў і вылізваў ідэю саюзнай дзяржавы? Мне патрэбны маштабы!»

Потым нехта нясмела прапанаваў прадумаць далейшую хаду кампаніі.

«Усё прадумана, — адрэзаў прэзідэнт. — За сабою пакідаем выпаленую зямлю. Атамную электрастанцыю і запасныя часткі да яе бярэм з сабою. Асаблівую ўвагу надаць эвакуацыі дзяцей, цяжарных жанчын і гожых маладзіц, ворагу пакідаць адно страхоцце. Пасля масавых родаў усіх апладняем наноў — нам патрэбныя салдаты — і ад Урала пачынаем шырокі партызанскі рух. Ірваць усё, што ірвецца: чыгункі, шашэйкі, глушыць рыбу, здымаць драты на алюміній і на медзь. Не пакідаць ворагу ані банана. Сам я буду ў «Боінгу» ў сакрэтным месцы над Беларуссю. Буду курыраваць дзеянні партызанскага штаба. Сувязь трымацьмем праз парашутыстаў».

Адзін генерал хацеў спытаць, а як жа парашутысты вернуцца на «Боінг», але, пакумекаўшы, вырашыў пачакаць.

«Спіс тых, хто будзе са мною, ужо складзены. У прычэпе да «Боінга» ёсць яшчэ вольныя месцы. Хто хоча, можа запісацца». Усе прысутныя, баючыся падазрэння ў нелаяльнасьці, выказалі жаданне.

«Дарэчы, колькі танкаў мы можам не прапусціць да Масквы?» — нечакана спытаў прэзідэнт. Абаронны міністр на момант сумеўся, а потым няўпэўнена сказаў: «Гэта залежыць ад таго, на колькі хопіць у іх грошай».

Нехта з генералаў выказаў непакой, што краіна дагэтуль не мае ваеннага флоту, не кантралюе марскіх шляхоў і абшараў. Усе пагадзіліся, што пытанне ўзнята своечасова і слушна. Прэзідэнт прапанаваў купіць у Расіі які-небудзь непатрэбны ёй флот. Было вырашана прыдбаць пяць крэйсераў (па адным на кожны акіян), дзесяць эсмінцаў, два авіяносцы (па адным на полюс) і некалькі падводных лодак для ваенна-марскіх падводных вучэнняў і парадаў.

Калі ўжо скончалі дыскусію, нехта прапанаваў купіць некалькі кітоў для марской выведкі. Прапанову прынялі і на гэтым спынілі паседжанне.

На абмеркаванне зімовага стойлавага перыяду насельніцтва часу ўжо не хапіла. Абмежаваліся рэкамендацыяй зачыняць шчыльна вокны з надыходам халадоў. У рэзалюцыі-звароце да беларускага народа так і запісалі: «На акно кладзіце мату, каб не клаў мароз сляды».

**Варгас Астурыяс (псеўданім)**

# Беларуская глыбіня. **Малітва на плошчы**

Піша **Павел Севярынец**.

*Мудрасць кліча на вуліцах,*
*На плошчах узносіць свой голас.*
*Выслоўі Саламонавы 1:20*



**Павел Севярынец**

палітык, пісьменнік. Сузаснавальнік Маладога Фронту, пасля Беларускай Хрысціянскай Дэмакратыі. Асуджаны на тры гады «хіміі» па справе так званых «масавых беспарадкаў» — так лукашэнкаўцы называюць пратэсты з патрабаваннем дэмакратыі і справядлівасці, што адбыліся ў дзень выбараў 19 снежня. Адбывае пакаранне ў Купліне Пружанскага раёна.

Плошчы ў Пружанах пустыя. Перад райвыканкамам — чорны чыгунны стод Леніна, пляц перад Домам культуры, забрукаваны калісьці на дажынкі, увогуле голы. Як гэтыя плошчы называюцца, невядома. Пытаў людзей — паціскаюць плячыма. Шукаў на мапах — безвынікова. Пустыя плошчы без імёнаў.

Ва ўсёй Еўропе цэнтральная плошча — гэта святое святых. На саборных і ратушных плошчах сталіцаў ды мястэчак скрозь касцёлы, кірхі, цэрквы. «Бо там, дзе двое ці трое збяруцца ў імя Маё, там і Я сярод іх», — кажа Ісус. І яна дагэтуль адчуваецца на еўрапейскіх плошчах, заціхлая — толькі прыслухацца! — прысутнасць Божая.

У Пружанах святыя месцы з савецкіх часоў пустыя. Абапал галоўнага пляцу — Палац культуры, цырульня, аптэка і крамы, крамы, крамы. Сэрца горада, атлусцелае ад спажывецтва і гулкае, бы барабан. Толькі шнуруюць людзі — з крамаў у аптэку, з цырульні на кірмаш. Таропка шорхаюць падэшвы (хутчэй, хутчэй праз гэтае няёмкае маўчанне) ды цікаюць абцасікі. Пранізліва, як гадзіннік — так, быццам чагосьці моцна чакаеш.

Дваццаць гадоў таму вернікі на беларускіх вуліцах патрабавалі вярнуць храмы. Сёння на мінскіх плошчах вернікі, якім аддалі храмы, моляцца за вяртанне людзей.

Штодзённая малітва за палітвязняў на плошчы Незалежнасці, ля Чырвонага касцёла трывае ўжо амаль год. У студзені 2011 яе пачыналі жанчыны, вядомыя ўсяму мінскаму руху як «Хор імя Зянона Пазняка» — Ніна Багінская, Лета Юстыновіч, Вера Ціцянкова, матуля выключанай з універсітэта прэс-сакратаркі Маладога Фронту Тані Шапуцькі Ганна...

**Беларусы моляцца засяроджана, у падлогу, у далоні, «перад сабой»** »

Тут жа — мама лідара нефармальнай моладзі Андрэя Кіма Таццяна, мама арыштаванага разам з Дашкевічам маладафронтаўца Эдуарда Лобава Марына, мама Вячаслава Сіўчыка, які цяпер гуртуе беларускі рух ва Украіне, спадарыня Галіна, мама Мікіты Ліхавіда Алена, матуля Андрэя Саннікава Ала... Людзі чытаюць «Ойча наш» і Біблію, спяваюць «Магутны Божа», пайменна згадваюць палітвязняў, па чарзе выказваюць кожны свой боль — і хорам: «Просім Цябе, Госпадзе!» Людзі выходзяць на Кастрычніцкую і праходзяць з малітвай той шлях, які год таму прайшлі дзясяткі тысячаў маніфестантаў.

Ужо ўлетку малітву падхапілі ў вялікіх гарадах. Віцебская малітва — штопятніцы на беразе Дзвіны, ля Ефрасіннеўскага крыжа перад Успенскім саборам; Гарадзенская — ля Петрапаўлаўскай царквы; гомельская — ля помніка Кірылу Тураўскаму; берасцейская — ля гарадскога касцёла...

Малітва на плошчы — моцная рэч. Але адразу ўскіпаюць спрэчкі — у цэрквах і на форумах. «Ты ж, калі молішся, зайдзі ў пакой твой і, зачыніўшы дзверы твае, памаліся Айцу твайму, Які ў тайнасці; і Айцец твой, Які бачыць у тайнасці, аддасць табе наяве» (Мацвея 6:6). Так, гэта правіла. Але ёсць і выключэнні — калі мудрасці час узносіць свой голас на плошчах.

Ісус шмат маліўся публічна — згадайма ерусалімскія вуліцы ці цуд з хлябамі. Дзеі апостальскія поўныя малітваў на плошчах. Святы Стэфан маліўся нават сярод тых, хто забіваў яго камянямі.

Юрыдычна малітва — гэта падстава для Бога ўмяшацца ў наша жыццё. Даючы чалавеку вольную волю, творца даў яму і спосаб дазволіць дзейнічаць праз чалавека Богу.

Шатландцы кажуць: «Аднойчы Джон Нокс зайшоў у сваю спальню памаліцца. Так пачалася гісторыя Шатландыі». Джон Нокс, вялікі казаннік XVI ст., чыёй малітвы каралева Марыя Сцюарт «баялася болей, чым усіх арміяў свету», заклікаў народ да малітваў на вуліцах Эдынбурга — і евангельская Рэфармацыя збудавала Шатландыю як краіну.

«Кажы, кажы, не змаўкай!» — цярэбіць доктар хворага, які зведаў моцны шок. Калі той змоўкне — можа памерці. Калі народ перастае размаўляць з Богам — ён памірае.

Вы звярталі ўвагу, як моляцца беларусы? Засяроджана, у падлогу, у далоні, «перад сабой». Нават у храмах і малітоўных дамах, нават калі царква поўная, за рэдкімі выключэннямі — паасобку. У гэтым сэнсе шматканфесійная малітва на плошчы, дзе вернікі бяруцца за рукі і хорам пералічваюць імёны тых, хто пакутуе за ўсіх, — яднанне беларусаў перад Богам.

Мы, якія святкуем нараджэнне Хрыста двойчы на год, зараз мусім сказаць сваё слова. Беларусь нараджаецца на плошчах — у малітве. На пачатку было Слова...

Якое?.. «Рэвалюцыя»? «Свабода»? «Дабрабыт»?

Тыя, хто цытуюць, звычайна забываюцца працяг:

«На пачатку было Слова, і Слова было ў Бога, і Слова было Бог».

(Яна 1:1)

*Куплін*



# Уладзімір Някляеў

# Турма

**Урыўкі з паэмы.**

**Гэты твор паэт і экс-кандыдат у прэзідэнты Уладзімір Някляеў пачаў пісаць у часе зняволення ў «амерыканцы». Праз год пасля Плошчы ён публікуе паэму.**

**У паэме «Турма» мы бачым эвалюцыю, умацаванне духу паэта ў вязніцы. Ад суму па каханай (жонку Някляева завуць Вольга, Воля) да процістаяння Турме – псіхалогіі рабства, унутранай несвабоды, у тым ліку добраахвотнай. Паэт адказвае на пытанне, для чаго чалавеку свабода.**

1
Цяпер, калі ты не са мной,
Не на плячы маім, не побач,
З турмой я засынаю ў поўнач
І прачынаюся з турмой.

З турмы ў турму пішу лісты:
«Каханая мая! Святая!..»
І што не прачытала ты —
Турма ўначы са мной чытае.

Збірае ўсе да аднаго
Мае маленні, таямніцы,
І тое сніць са мной, чаго
Табе ніколі не прысніцца.

Я цалаваўся з ёю ў сне,
Яна ў маіх абдымках спала!
«Ты закахаешся ў мяне!» —
Турма мне горача шаптала.
І не было такога сна,
Каб у якой нары ваўчынай
Табой не снілася яна
І не была маёй жанчынай.
У пошуках уцех начных
Яна мяне ва ўсіх эпохах
Цягала тайна па сваіх
Скляпеннях,
сутарэннях,
лёхах.
І ўсё, што бачылі яны,
І ўсё, што чулі сярод ночы,
Турма ў мае ўплятала сны,
Якімі засціла мне вочы.
І голасам тваім турма,
Душу мне змучыўшы да болю,
Шаптала, што пішу дарма
Лісты
з няволі
ў няволю.

2
Каханая! Цябе адну
Кахаю!.. А турма змяёю
Шыпіць, вяртаючы са сну,
Дзе зноў табе я здрадзіў з ёю.
Ва ўсім падманка і падменка,
Яна спяшала ў сон: «Хутчэй!..»
І падала
твая сукенка
З яе аголеных плячэй.
Каб мне
табой
да ранку сніцца,
Яна пярсцёнак залаты
І залатыя завушніцы
Здымала, як здымаеш ты.
І кожны жэст — як твой, адзіны,
І кожны рух яе такі,
Як плаўны, лёгкі, лебядзіны,
Лятучы ўзмах тваёй рукі.

…

4
Мне ад Турмы ў турме нідзе
Няма ні сховы, ні збавення,
Паўсюль знаходзіць — і вядзе
У склепы,
лёхі,
сутарэнні.
У сутарэннях — цэлы свет:
Героі... здраднікі... сексоты...
Яны мяне пыталі: «Хто ты?»
Турма адказвала: «Паэт».
«Сексот ён,
здраднік,
ці герой? —
Пыталі здані. — Наш ён? Твой?..
А што паэт, дык нам не дзіва!»
Турма казала: «Ён са мной», —
І здані ўкленчвалі пачціва.
«Ты маніш!» — я крычаў. «Маню? —
Турма пытала. — Не мяне ты
Хіба кахаеш?.. Ах, паэты!..» —
Яна ўздыхала, і шкілеты
Ківалі, доўжылі гульню.
Іх тысячы, мільёны іх
У павуцінні, пыле, цвілі,
І ў іх патыліцах — ва ўсіх! —
Чарнелі дзіры.
Іх забілі.
«За што, Турма?..»
«Ты не ў мяне
Пытайся, а ў суддзі ці ў ката...»
І здані ўсе крычалі: «Не!
Турма ні ў чым не вінавата!»
Яны сцялілі нам кілім,
На ім, не знаючы спатолі,
Кахаўся я з Турмой і Воляй,
І ўжо не помніў:
дзе я?.. з кім?
І ўсё было мне шалу мала,
І ў шале тым у міг любві
Турма ці Воля прашаптала:
«Адна з нас лішняя. Забі!»

…

10
Турма ў турме — і воля ў ёй.
Усе за кратамі ў краіне,
Дзе дух крывіцкі нема гіне,
Разняты з моваю сваёй.
Ён тут. Загнаны ў самы дальні
І цесны лёх, у змрочны кут,
Ён тут са мной у катавальні,
Са мной на допытах ён тут.
І калі кат мяне катуе
І боль дратуе нажавы,
Крывіцкі дух мяне ратуе,
Хоць сам ад болю ледзь жывы.
Як ён Турме не даспадобы!
Яна каля яго заўжды
У чорным, нібы ў дзень жалобы,
Бурносе, нібы ў халады.
Змушае жыць каля парашы
На крапіве і лебядзе,
Не дакладзе паўмісы кашы,
На лусту хлеба абкрадзе.
Найлютаму аддасць канвою,
Каб той зламаў,
скруціў у рог!..
Ён дух... ён вольны... ён з Турмою,
Са мною б развітацца мог.
Але ў падменным і падманным,
Кайданным і закратаваным
Турэмным свеце, у лайне
Мой дух з хрыбтом пераламаным
Не пакідае ўсё ж мяне!
Ён сам абраў такую долю:
Цягнуць мяне з ярма, з дзярма, —
І ненавідзіць больш, чым Волю,
Яго
раўнівая Турма.

…

18
— Вунь здані... Гэта ўчора — людзі,
Што сёння ценямі снуюць, —
Казаў мне голас. — Кружаць роем
Сексоты,
здраднікі,
героі...
Якія ў іх блукаюць мроі,
Якія жарсці ў іх жывуць?
У тым?.. У гэтым?..
Гэй, шкілет,
Ты хто?..
— Паэт.
— За што ж забілі
Цябе?..
— За тое, што паэт.
За тое, што мяне любілі.
— Любілі?
— Так.
— А хто любіў?
— Усе. І тыя, хто забіў.
Яны ў турме мне волю далі.
Турма і Воля абдымалі
Мяне — і клалі на кілім,
Шапталі на кіліме тым:
«З Турмой ты можаш быць нікім,
А з Воляй быць героем трэба,
Чапляцца, нібы дым, за неба,
І таяць, нібы ў небе дым...»
— Я гэта чуў!.. Даволі! Досыць!
— Маўчу, маўчу... Калі так просяць,
Дык калі ласка... Але дзіва:
Я здань,
я прывід столькі год,
А сёння мне чамусьці дзідай
Прабілі сэрца навылёт!
І кроў лінула… з пылу… з цвілі...
Жывая... Хоць мяне забілі
Даўно…
— А хто цябе забіў?
— Мой брат, які мяне любіў.
Турэмны кат.
— Ты быў каханкам
Турмы і Волі?
— Так... І ранкам
Яны прыйшлі і павялі...
— Куды?
— Да ката...

19
— На зямлі,
На волі і ў турме дарога
Адна, — той голас доўжыў строга. —
У іх абдымках ты самога
Сябе не знойдзеш, будзеш тым,
Хто выбраў нары ці кілім...
Калі ты чуеш шэпты Бога,
Будзь з Ім — і болей ані з кім!

...

22
Нябесны Ойча! Як я ўпарта
Рабіў усё, што мог зрабіць,
Каб страціць волю! Не здабыць,
А страціць!.. Як так выйшла, Ойча?..
Са мной?.. З усімі?.. Ты аднойчы
Даў волю ўсім нам! Без крыві!
Праз ласку Боскую!.. «Жыві, —
Сказаў Ты ёй, — у гэтым людзе,
Бо без цябе яго не будзе,
Бо без цябе ён прападзе!..»
Мы прападаем, Ойча!.. Дзе
Воля?!.
Як?.. Чаму згубілі
Яе мы, Ойча?..

23
— Не любілі,
Таму згубілі, — мовіў дух. —
Затое кожны свой катух
Займеў... Хай цесны, але з кашай
Прасянай... З нарамі, парашай:
Паеў, паспаў… Вунь і кілім
Пасцелены… Турма на ім
Гуляе ў волю, непрыкрыта
То з гэтым цешыцца, то з тым...
Народ прасеяўся праз сіта:
Пустое ўсё ва ўсім пустым.
Няўтульна з воляй вам. Не сыта.
А дзе вам сыта? Ля карыта.
А дзе карыта? Там, дзе хлеў.

24
І з дальніх лёхаў даляцеў
Задушны стогн, жалобны спеў
Усіх
загнаных у скляпенні,
Тых,
хто праклятый ў пакаленнях
Праклёнам даўніны сівой:
«Бадай бы вам цягаць каменні
На дом чужы, а не на свой!»

25
Нябесны Ойча! Той праклён
На ўсе вякі? Такі наш кон:
Згубіць сваё і жыць з чужога?..
Такі наш лёс
па волі Бога?
Дом,
што не воляю сваёй
Пастаўлены,
стае турмой!
Турма — не сцены.
Для турмы
Не камяні сабраны. Мы.
Мы — краты і ключы астрога.
Без волі Бога быць нічога
Не можа! Волас не ўпадзе
Без волі Бога!..
На Судзе
Ахвяры злічаць, згубы, страты,
Спытаюць: «Хто ў тым вінаваты?..»
Ніхто, ніхто! Турма і каты
Не вінаваты!
Доля… Крыж...
Турмой і Воляй
паміж
Ударыў я! Паміж вякамі,
Што выціскалі волю з нас,
З якіх крывёю ліўся час
І глінай застываў, пяскамі,
Ставаў балотамі, а намі —
Ніяк,
ніяк,
ніяк,
ніяк!..
І з прорвы часу быў мне знак:
Вякі рассунуліся, як
У парадзіхі дол — і ў доле
Я ўбачыў немаўлятка:
Волю!

26
«Мой Ойча! Што рабіць мне з ёй?..»
«Прыняць! Яна з тваёй крывёй!
Гадуй яе! Перахварэй
На ўсе хваробы... З ёй дурэй,
З ёй весяліся, плач... Няхай
Яна палюбіць гэты край
Ці ўзненавідзіць, як спазнае,
Што тут салодкі вінаград,
Дзе ні садзі — не выспявае,
Тут застаецца братам
брат,
Які ў патыліцу страляе!
Няхай ці добраю, ці злой
Яна ўзрасце, але сваёй
Узгадаванай зямлёй,
Не дзічкай на пустэльнай выспе,
Не рыссю, кінутай у клецьь,
Якую ты ў вязніцы выснеў!..
І воля ў часе мусіць выспець —
І вы для волі ў час саспець.
Прымі яе. Гадуй. Спялі.
Няхай расце. Няхай мужае.
Зямля і воля на зямлі —
Або свая, або чужая».

27
Сцяна між намі межавая —
Турэмная сцяна. Ах, Яска!
Даруй, даруй мне, калі ласка,
Сцяну! Вы, камяні ў сцяне,
Даруйце мне, даруйце мне!
Вы ў садзе камянёў маглі
Ляжаць, — ды воля на зямлі
Альбо свая, альбо чужая!..
Яна ў вязніцы выжывае,
У гэтым краі страт і скрух,
Але расце, але мужае,
І разам з ёй мужае дух,
Якому толькі воля трэба —
Нічога болей!..
Гэты дым,
Які чапляецца за неба
І растае высока ў ім…

*25—31. 12. 2010,*
*унутраная турма КДБ.*

**Цалкам паэма будзе надрукаваная ў часопісе «Дзеяслоў».**

# Святая ноч



PHOTO.BYMEDIA.NET

Расклад набажэнстваў на святы Божага Нараджэння ў некаторых парафіях Мінска і Мінскага раёна:

**Архікафедральны касцёл Імя Найсвяцейшай Панны Марыі** (пл. Свабоды, 9)

**24 снежня**

21.45 — святая Імша ў вігілію Нараджэння Пана на беларускай мове (жывая трансляцыя на тэлеканале «Беларусь-1»)

**25 снежня**

08.15 — святая Імша на беларускай мове (трансляцыя на Першым нацыянальным канале беларускага радыё)

10.00, 13.00, 18:30 — святая Імша

**Касцёл Найсвяцейшай Тройцы (Святога Роха) на Залатой Горцы** (пр. Незалежнасці, 44а)

**24 снежня**

22.00 — святая Імша ў вігілію Нараджэння Пана

**25 снежня**

09.00, 11.00, 12.30, 19.00 — святыя Імшы

**Касцёл Узвышэння Святога Крыжа (Кальварыя)** (Кальварыйскі праезд, 1)

**24 снежня**

21.00 — святая Імша ў вігілію Нараджэння Пана

**25 снежня**

10.00, 14.00, 16.00, 18.00 — святыя Імшы

**Касцёл Святых Сымона і Алены (Чырвоны)** (пл. Незалежнасці, 15)

**24 снежня**

20.00 — святая Імша ў вігілію Нараджэння Пана на беларускай мове

24.00 — святая Імша ў вігілію Нараджэння Пана на беларускай мове

**25 снежня**

08.00, 09.00, 11.00, 13.00, 15.00, 16.00, 17.00, 19.00, 21.00 — святыя Імшы

**Капліца Святога Яна Хрысціцеля (Серабранка)** (Пляханава, 28)

**24 снежня**

22.00, 24.00 — святыя Імшы ў вігілію Нараджэння Пана

**25 снежня**

8.30, 10.00, 12.00, 13.30, 19.00 — святыя Імшы

**Капліца Св. Яна Евангеліста і Св. Максімільяна Кольбэ (Кунцаўшчына-Масюкоўшчына)** (Матусевіча, 80; даезд аўт. 29, 40, 78, 107, 116 (да прып. Матусевіча 88), аўт. 101 121 (да прып. Гаражы)

**24 снежня**

21.00, 23.00 — святыя Імшы ў вігілію Нараджэння Пана

**25 снежня**

09.30, 12.30, 18.00 — святыя Імшы

10.30 — калядная інсцэніроўка

**27 снежня**

19.00 — адпустовая святая Імша (свята Св. Яна, апостала і евангеліста)

**Парафія Хрыста Збаўцы і Нараджэння Найсвяцейшай Панны Марыі (Аўтазавод)** (вул. Арджанікідзэ, 6 — Цэнтр Святога Язэпа)

**25 снежня**

10.00 — святая Імша

**Касцёл Маці Божай Ружанцовай (Лошыца)** (вул. Гашкевіча)

**24 снежня**

22.00, 24.00 — святыя Імшы ў вігілію Нараджэння Пана

**25 снежня**

10.00, 12.00, 19.00 — святыя Імшы

**Парафія Святога Міхала Арханёла (Гатава)** (вул. Металургічная (канцавы прыпынак аўтобусаў), г.п. Гатава, Мінскі р–н)

**24 снежня**

22.00 — святая Імша ў вігілію Нараджэння Пана

**25 снежня**

11.00 — святая Імша

**Капліца Найсвяцейшай Панны Марыі Успамогі Хрысціянаў (Бараўляны)** (пас. Лясны — аўтобусны прыпынак «Зялёны бор»; даезд аўт. 113)

**24 снежня**

21.00 — святая Імша ў вігілію Нараджэння Пана

**25 снежня**

11.30, 13.00 — святыя Імшы

## ХАКЕЙ

### Прыедуць госці з Рыгі

У рамках Кантынентальнай хакейнай лігі мінскае «Дынама» прыме аднаклубнікаў з Рыгі. Матч адбудзецца **22 снежня на «Мінск-Арэне»**. Пачатак а 19-й. **24 снежня** — гульня з СКА (Санкт-Пецярбург). Пачатак а 17-й. **26 снежня:** «Дынама» (Мінск) — Атлант (Мыцішчы). Пачатак а 19-й.

## ІМПРЭЗЫ

### Шоргат жукоў

**23 снежня ў Мінскай абласной бібліятэцы імя А. С. Пушкіна (Гікалы, 4) а 19-й** — прэзентацыя новай кнігі Змітра Вішнёва «Шоргат жукоў».

### Святочная Ялінка для беларускіх сем'яў

**Яліначка адбудзецца 24 снежня ў кавярні THE LOFT (Петруся Броўкі, 22)**. Пачатак у 11:30. «Нашы дзеткі» і Bazart запрашаюць за салодкі стол з Дзедам Марозам, на танцы пад цымбалы і поўзанне па дыванках. Запісацца можна па тэл. (029) 9117887, (029) 7846313 (Наста), skype: Bazart_by, e-mail: Bazart@tut.by.

### Калядны фэст

**25 снежня а 18-й у «RE: PUBLIC» (Прытыцкага, 62)** — Калядны фэст. Бяруць удзел «Стары Ольса», «Znich», «Litvintroll».

## КАНЦЭРТЫ

### Калядны канцэрт

**23 снежня ў канцэртнай залі «Верхні горад»** музычная капэла «Санорус» выступае з праграмай «Калядны канцэрт», у якую ўвайшлі самыя папулярныя калядныя і навагоднія мелодыі і песні розных часоў і народаў у арыгінальных і сучасных аранжыроўках. **Пачатак а 19-й.**

### Калядны канцэрт у Музеі

**28 снежня а 19-й у мастацкім музеі** італьянскі піяніст Джакома Батарына і камерны склад сімфанічнага аркестра Рэспублікі Беларусь прапануюць вашай увазе калядны канцэрт. У праграме: А. Карэлі, В.А.Моцарт, П.І.Чайкоўскі.

## ВЫСТАВЫ

### Вячалаў Кубараў

**У галерэі твораў Л.Шчамялёва (пр.Ракасоўскага, 49)** працуе выстава, прымеркаваная да 80-годдзя Вячаслава Кубарава, на якой прадстаўленыя творы жывапісу і эскізы да кінафільмаў…

### Моцарт жывапісу

**Да 3 студзеня ў Нацыянальнай бібліятэцы** працуе юбілейная кніжна-ілюстрацыйная выстава «Моцарт жывапісу», прысвечаная 150-годдзю з дня нараджэння рускага жывапісца, прадстаўніка імпрэсіянізму Канстанціна Аляксеевіча Каровіна.

### Вайна 1812 года ў гісторыі Мінска

**Да 8 студзеня ў гістарычным музеі** працуе выстава «Вайна 1812 года ў гісторыі Мінска». Драматычная гісторыя нашай краіны непарыўна звязана з самымі вядомымі і кровапралітнымі войнамі, якія вяліся на тэрыторыі Еўропы. Не абмінулі Беларусь і Напалеонаўскія войны — бадай самыя пераломныя падзеі пачатку XIX ст. Нягледзячы на маштаб і значнасць вайны 1812 г. для Беларусі, яна да канца так і не асэнсавана грамадствам.

### Калядны кірмаш

**Да 15 студзеня ў мастацкай галерэі «ЛаСандр-арт» (Раманаўская Слабада, 24)** працуе выстава жывапісу «Калядны кірмаш». У экспазіцыі — працы Ігара і Алены Бархаткавых, Сяргея Рымашэўскага, Уладзіміра Канцэдайлава, Дзмітрыя Сурыновіча і іншых.

### Мы народжаныя, каб жыць і ствараць

**Да 30 снежня ў гарадской галерэі Л.Шчамялёва (пр.Ракасоўскага, 49)** у рамках праграмы «Ацаленне праз мастацтва» працуе выстава твораў Паўла Рашчынскага «Мы народжаныя, каб жыць і ствараць».

Праграма скіраваная на дапамогу тым, хто мае ў ёй патрэбу, сродкамі мастацтва.

### Final destination

**Да 5 студзеня ў мастацкай галерэі TUT.BY (В.Харужай, 1а, 6-ы паверх)** працуе выстава «Final destination», дзе будуць экспанавацца творы Васіля Зянько і Аляксея Хацкевіча.

### Я не самотны…

**Да 23 снежня ў Палацы мастацтва** працуе выстава «Я не самотны…», прысвечаная 120-годдзю з дня нараджэння Максіма Багдановіча. У выставе возьмуць удзел больш за сотню беларускіх жывапісцаў, графікаў, скульптараў, майстроў дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва.




## ТЭАТРЫ

### 21 снежня

**Беларускай драматургіі** — «Белы анёл з чорнымі крыламі»

### 22 снежня

**Купалаўскі** — «Зіма»
**Беларускай драматургіі** — «Белы анёл з чорнымі крыламі»
**Оперы і балета** — «Бахчысарайскі фантан»

### 23 снежня

**Юнага гледача** — «Казка чароўнага лесу»
**Беларускай драматургіі** — «Няззваны госць»
**Оперы і балета** — «Бахчысарайскі фантан»

### 24 снежня

**Юнага гледача** — «Казка чароўнага лесу»
**Лялек** — «Асцярожна — свіння»
**Беларускай драматургіі** — «Дамавічкі»
**Оперы і балета** — «Яўгеній Анегін»

### 25 снежня

**Юнага гледача** — «Казка чароўнага лесу»
**Лялек** — «Марозка»

### 26 снежня

**Лялек** — «Марозка»
**Юнага гледача** — «Казка чароўнага лесу»

### 27 снежня

**Лялек** — «Чырвоны Каптурок»
**Юнага гледача** — «Казка чароўнага лесу»
**Беларускай драматургіі** — «Дамавічкі»
**Беларускай драматургіі** — «Карусель»
**Оперы і балета** — «Бальмаскарад»

### 28 снежня

**Лялек** — «Кот у ботах»
**Юнага гледача** — «Казка чароўнага лесу»
**Беларускай драматургіі** — «Гісторыя двух сабак»
**Оперы і балета** — «Жызэль»
**Беларускай драматургіі** — «Карусель»

### 29 снежня

**Лялек** — «Чароўная лямпа Аладына»
**Юнага гледача** — «Казка чароўнага лесу»
**Беларускай драматургіі** — «Гісторыя двух сабак»
**Оперы і балета** — Гала-канцэрт зорак Вялікага тэатра Рэспублікі Беларусь

### 30 снежня

**Лялек** — «Марозка»
**Юнага гледача** — «Казка чароўнага лесу»
**Беларускай драматургіі** — «Дамавічкі»
**Оперы і балета** — «Церам-церамок»
**Оперы і балета** — Гала-канцэрт зорак Вялікага тэатра Рэспублікі Беларусь

### 31 снежня

**Оперы і балета** — Гала-канцэрт зорак Вялікага тэатра Рэспублікі Беларусь

## КІНО

### Гармідар ад Рамана Паланскага

**Гармідар** (Carnage / у пракаце — Разня)
Францыя — Нямеччына — Іспанія — Польшча, 2011, каляровы, 79 хв.
**Рэжысёр:** Раман Паланскі
**Ролі выконваюць:** Джодзі Фостэр, Крыстаф Вальц, Кейт Уінслет, Джон Сі Райлі
**Жанр:** Камерная трагікамедыя паводле п'есы Ясміны Рэзы
**Адзнака:** 5,5 (з 10)

Дзеці пасварыліся — і адзін хлопец стукнуў другога палкай. Бацькі хулігана прыйшлі з прабачэннямі да бацькоў ахвяры. Але высвятляецца, што ў герояў супрацьлеглыя погляды на выхаванне, палітыку, Афрыку і хатніх хамячкоў. Акрамя таго, ёсць і маленькія сямейныя сакрэты, якія мусяць быць выкрытыя.

Героі Джодзі Фостэр, Крыстафа Вальца, Кейт Уінслет і Джона Райлі — звычайныя прадстаўнікі сярэдняга класа, якія пнуцца жыць у згодзе з суседзямі. Прымірэнчыя свецкія размовы — працяг дзіцячай вайны, дзе дарослыя выглядаюць як падлеткі — толькі з улікам жыццёвага досведу й шматлікіх сацыяльных масак.

**Андрэй Расінскі**



# Колькі каштуе пакатацца на каньках?

Хай безліч лядовых палацаў **не стаяць пустымі**.

Бясснежная зіма, з якой беларусы сустракаюцца ўсё часцей і часцей, накладае свой адбітак і на адпачынак. Цяпер ні па лесе на лыжах пахадзіць, ні з горкі скаціцца. Што ж рабіць? Час згадаць пра канькі. Хай безліч лядовых палацаў, набудаваных па ўсёй краіне, не стаяць пустымі. У гарадах, дзе лядовая пляцоўка адна, выбару, куды ісці, не будзе, а вось у Мінску — вочы разбягаюцца.



«Мінск-Арэна» — самае дарагое месца. Трэба ж неяк плаціць штомесяц па $200 тысяч за асвятленне...

### Коўзкі Мінск

Прапануем вашай увазе спіс месцаў, дзе ўжо сёння можна пакатацца на каньках.

| Коўзанка | Расклад | Кошт за сеанс | | Працяглaсць сеанса | Пракат канькоў (за сеанс) | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| | | дзіцячы (да 14 год) | дарослы | | дзіцячы (да 14 год) | Дарослы |
| **Палац спорту (Прытыцкага, 27). Т.: (17) 207-26-87** | Працоўныя дні — 20.45 вых. — 18.00-22.00 | 6 000 | 10 000 | 45 хв. | 8 000 | |
| **Коўзанка на Нямізе (пр-т Пераможцаў, 4а). Т.: (17) 306-29-86** | 10.00-22.45 (15.00-16.00 перапынак) | 5 000 | 10 000 | 45 хв. | 5 000 | 10 000 |
| **Коўзанка у Чыжоўцы (перасячэнне Ташкенцкай і Галадзеда) Т.: (17) 341-20-88** | 10.00-22.45 (з перапынкамі пасля сеансаў) | 5 000 (да 8 гадоў — бясплатна) | 10 000 | 120 хв. | 5 000 (за гадзіну) | 10 000 (за гадзіну) |
| **Мінск-Арэна (пр-т Пераможцаў, 111) Т.: (17) 279-07-00** | 20.00-21.00 (расклад змяняецца штодня) | 9 000 (да 16 гадоў) | 18 000 | 45 хв. | 12 000 | |
| **Коўзанка ў Сілічах Т.: (17) 745-03-54** | працоўныя дні — 13.00-23.00 | 6 000 | 12 000 | 60 хв. | 4 000 | 8 000 |
| | выходныя — 10.00-23.00 | 7 500 | 15 000 | | 5 000 | 10 000 |
| **Коўзанка ў Раўбічах Т.: (17) 507-44-99** | выходныя (расклад можа змяняцца) | 8 000 (да 10 гадоў) | 12 000 | 45 хв. | 5 000 | 10 000 |

У Мінску 45-хвіліннае коўзанне разам з пракатам канькоў каштуе ў сярэднім 20 тысяч рублёў.

Усе згаданыя коўзанкі з'яўляюцца крытымі (за выключэннем коўзанкі ў Чыжоўцы, якая пачала працаваць некалькі дзён таму). Катацца там можна пры любым надвор'і.

З надыходам маразоў запрацуюць і адкрытыя коўзанкі, у тым ліку на Кастрычніцкай плошчы. Іх заліваюць пасля таго, як сярэдняя тэмпература паветра цягам тыдня складзе -7° — -10°С, а таксама пры наяўнасці ўстойлівага снегу, паведамілі ў Аддзеле фізічнай культуры Цэнтральнага раёна. У Мінску налічваецца больш за 120 дваравых коўзанак, якія таксама запрацуюць з прыходам сапраўднай зімы.

Узяць канькі напракат можна ў некаторых мінскіх пунктах пракату. За суткі карыстання канькамі вы заплаціце ад 5 да 15 тысяч рублёў. Пракат на месяц каштуе ад 42 тысяч рублёў і вышэй. Новыя канькі каштуюць у крамах Мінска ад 200 да 600 тысяч і вышэй. Напрыклад, у ЦУМе кошты вагаюцца ад 200 да 500 тысяч (вытворчасць — Кітай). Чэшскія канькі ў адной са спартыўных крамаў каштуюць 550-650 тысяч рублёў.

Перад тым як набываць, вызначцеся, канькі якога віду найбольш адпавядаюць вашым патрабаванням. Ёсць чатыры асноўныя віды: хакейныя, фігурныя, канькабежныя і прагулкавыя. Апошнія найбольш падыходзяць пачаткоўцам. Адпаведна, першыя тры — больш прасунутым. Пра асаблівасці кожнага віду вам падрабязна раскажуць у спецыялізаваных крамах. Хутчэй за ўсё «ў нагрузку» вам прапануюць яшчэ і тэрмашкарпэткі, якія абароняць ступні ад холаду і пры гэтым забяспечаць вентыляцыю нагі. Каштуе такое задавальненне як палова канькоў — 170-300 тысяч рублёў за пару.

Дызайн канькоў сёння досыць разнастайны. Апроч звыклых воку белых (жаночых) і чорных (мужчынскіх), напрыклад, ёсць варыянты са скуры пад кракадзіла ці стылізаваныя пад кеды чэшскай вытворчасці.

Завастрыць канькі можна ў большасці крытых коўзанак. Кошт паслугі — каля 10 тысяч рублёў.

**Аксана Рудовіч**

## Камфорт дабраўся і да Оршы

**Швейцарская электрычка** працягвае рух па краіне.

Беларуская чыгунка з 24 снежня адкрывае чарговы маршрут рэгіянальных ліній. Новымі шчаслівчыкамі стануць жыхары Оршы. Дарога на швейцарскай электрычцы «Штадлер» ад яе да сталіцы — а гэта 212 кіламетраў — зойме 2 гадзіны 18 хвілін. Гэта прыблізна столькі ж, як і на беспяресадачных міжнародных цягніках. Кошт праезду складзе ўсяго 11 760 рублёў.

А вось да раскладу, як заўсёды, застаюцца пытанні. Найбольш запатрабаванай электрычка магла б быць, калі б раніцай прывозіла жыхароў перыферыі ў цэнтр краіны, а ўвечары развозіла па хатах. Аднак кіраўніцтва Беларускай чыгункі з незразумелых прычын абрала адваротны варыянт. У выніку ў найлепшым выпадку ў Мінск можна прыехаць а палове першай дня, а з'ехаць — а палове чацвёртай.

**ЯМ**

**Існуючыя маршруты**

Мінск — Заслаўе

Мінск — Рудзенск

Мінск-Баранавічы-Брэст

**Прыпынкі па дарозе да Оршы**

Смалявічы — Жодзіна — Барысаў — Крупкі — Талачын

| Расклад руху | | | | |
|---|---|---|---|---|
| Мінск | 7:38 | 12:28 | 15:24 | 21:04 |
| Орша | 9:56 | 10:10 | 17:42 | 18:46 |

**Новы год**

## Выязны Дзед Мароз

**Рэзідэнцыя ў Парку Горкага** адкрыецца перад Калядамі.

Сталічны Дзед Мароз апоўдні 23 снежня ўрачыста прыбудзе ў сваю рэзідэнцыю ў Цэнтральным дзіцячым парку імя Горкага. Як і ў папярэднія гады, Дзед Мароз чакае ў госці дзетак розных узростаў. Але не выключаны сюрпрызы і для дзяцей старэйшага ўзросту. У гэтым сезоне, як і раней, прадугледжваюцца celebrations розныя — 

Чароўны персанаж з радасцю паслухае любімыя вершы і песні дзяцей і ўручыць падарункі з чарадзейнага куфэрка.

Кошт такога міні-дыялогу працягласцю 5–7 хвілін складзе для бацькоў 15-25 тысяч рублёў. Да больш працяглай сустрэчы (да 20 хвілін) і, адпаведна, больш дарагой (45-65 тысяч) бацькам трэба падрыхтавацца загадзя разам з памочнікамі Дзядулі Мароза. У час гутаркі Мароз пацікавіцца ў дзяцей, як прайшоў год, прапануе гульні і загадкі, дасць наказ на наступны год, а таксама з задавальненнем выслухае верш ці песню маленькага госця і ацэніць яго навагодні касцюм.

Самыя дэмакратычныя цэны — на групавое наведванне: за 40 хвілін групе ад 5 да 20 чалавек трэба будзе заплаціць ад 10-15 тысяч за аднаго чалавека. Скааперавацца могуць школьныя класы, групы дзіцячых садкоў, інтэрнатаў, турыстычныя экскурсіі, групы знаёмых паміж сабой бацькоў з дзецьмі. У праграме — загадкі, гульні, выступленні дзяцей, розыгрыш падарункаў з чарадзейнага куфэрка.

**БелТА**

Рэзідэнцыя Дзеда Мароза знаходзіцца ў Белавежскай Пушчы ў вёсцы Камянюкі. Гэта за 65 км ад Брэста. Час працы сядзібы — з 9-й да 18-й. Экскурсія каштуе 35-40 тысяч рублёў.

## За мяжу — не выходзячы з аўто



Ад кіроўцаў і пасажыраў патрабуюць толькі аднаго — чакаць.

У Каменным Логу пачаўся **новы эксперымент**.

Найбуйнейшы транспартны пераход на мяжы з Літвой часова перайшоў на новыя правілы працы. Цяпер кіроўца і пасажыры не павінны ісці з дакументамі да памежнікаў і мытнікаў. Яны самі будуць падыходзіць да аўтамабіляў. Па такой сістэме працуюць літоўцы.

Калі эксперымент атрымае станоўчыя ацэнкі, яго распаўсюдзяць і на іншыя беларускія памежныя пераходы.

**«Рэгіянальная газета»**



СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН

У кавярні «Планета зорак» прайшла восьмая беларуская ялінка для дзяцей і іх бацькоў. У праграме ялінкі былі забавы для дзяцей і дарослых ад тэатра «Жывое слова». Арганізатарамі ялінкі выступіў сайт «Нашыя дзеткі» і супольнасць беларускамоўных бацькоў.



PHOTO.BYMEDIA.NET

**У начным клубе Dozari адбылася прэзентацыя пятага выпуску даведніка «Шоу-бізнес Беларусі».**



**Школьнік з Гродна Аляксандр Казлоў сканструяваў экамабіль. Двухмясцовы аўтамабіль здольны разганяцца да 35 кіламетраў у гадзіну. І праязджае на адной зарадцы акумулятара 100 кіламетраў. Падрабязней — на старонцы 5.**



**Эцібар Эльчыеў з Грузіі трапіў у Кнігу рэкордаў Гінэса, прымагніціўшы да сябе пяцьдзясят лыжак рознага калібру.**

## Анекдоты

* * *

Зусім заблыталі беларусаў. Ці гэта Лукашэнка прызначае Ярмошыну, ці Ярмошына Лукашэнку?

* * *

Калі дапамагаеш незнаёмцу несці цяжкую торбу ці дзелішся з сябрам нумарам, памятай, што смяротнае пакаранне ў нас ніхто не адмяняў.

* * *

Палякі, відаць, пераблыталі Міхалевіча і Міхальчанку. Але разабраліся і адпусцілі.

* * *

Жыхар Г. сабраў унікальную калекцыю чарніліц. 300 бутэлек з-пад «чарнілаў». Калекцыю можна паглядзець у пункце прыёму шклатары №3.

* * *

Бландзінка ў салоне сотавай сувязі.

— Скажыце, у чым розніца паміж гэтым і гэтым тэлефонамі?

— Розніца паміж гэтым і гэтым тэлефонамі ў тым, што вось гэта mp3-плэер, а гэта — фотаапарат.

* * *

Вясковец, разглядаючы хамуты на кірмашы, тэлефануе жонцы:

— Маня, ты не памятаеш, які ў нашага каня памер па каўняры?

* * *

Касманаўты даюць распіску захоўваць у строгай таямніцы, што Зямля плоская і не круціцца вакол Сонца.

## «НН» сто гадоў з вамі

**Лепель, Віцебская губерня.** У канцы дачакаўся і наш горад чыгункі. Праз Лепель пройдзе лінія Масква — Вільня. Жыхары дужа жадаюць гэтага. Горад асігнаваў 10 тысяч рублёў на пачатковыя работы; апроч гэтага, дае дарма зямлю для вакзала і іншыя будоўлі. Вакзал будзе за паўвярсты ад горада.

**«НН». №51—52. 1911.**

**Элегантны прысуд прафсаюзам.** Урад прыняў пастанову «Аб мерах па абароне правоў сяброў прафсаюзаў». Гэтым дакументам, у прыватнасці, спыняецца практыка цэнтралізаванага адлічэння сяброўскіх складак на рахункі прафсаюзных арганізацый. ФПБ бачыць у гэтым рашэнні незаконны акт і палітычную помсту за ўдзел Ганчарыка ў выбарах і вернасць Ганчарыку пасля выбараў.

**«НН». №51. 2001.**


**Наша Ніва**

незалежная газета

заснаваная ў 1906, адноўленая ў 1991

галоўныя рэдактары «Нашай Нівы»:
З.Вольскі (1906), А.Уласаў (1906—1914),
Янка Купала (1914—1915), А.Луцкевіч,
У.Знамяроўскі (1920), С.Дубавец (1991—2000).

сакратарка рэдакцыі — Наста Бакшанская
шэф-рэдактар — Андрэй Дынько
намеснік галоўнага рэдактара — Зміцер Панкавец
галоўны рэдактар — Андрэй Генадзевіч Скурко
заснавальнік — Прыватнае прадпрыемства «Суродзічы»
выдавец — Прыватнае прадпрыемства «Суродзічы»

АДРАС ДЛЯ ДОПІСАЎ:
220050, Мінск, а/с 537
Tel/fax: (017) 284-73-29, 8-029-613-32-32,
8-029-707-73-29.
E-mail: nn@nn.by
On-line: www.nn.by

**Падпісны індэкс:**
індывідуальны — **63125**
для прадпрыемстваў — **631252**




8 палос фарматам А2, 4 друк. арк. Друкарня РУП «Выдавецтва «Беларускі Дом друку». ЛП №02330/0494179 ад 03.04.2009. Пр. Незалежнасці, 79, 220013, Мінск. Рэдакцыя не нясе адказнасці за змест рэкламных абвестак. Пасведчанне аб рэгістрацыі перыядычнага выдання №248 ад 22 чэрвеня 2009 г., выдадзенае Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь. Юрыдычны адрас: 220101, г. Мінск, вул. Асаналіева, 15-128. Р/р 3012206280014 у МГД ААТ «Белінвестбанк», Мінск, код 764.

Наклад 7630. Газета выдаецца 48 разоў на год.
Нумар падпісаны ў друк 23.00 13.12.2011.
Замова №6057.
Рэдакцыйны адрас: Асаналіева 15-128.

Цана дамоўная.

ISSN 1819-1614

М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12